ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 24 (2550)
ПЯТНІЦА
11
чэрвеня 1971 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.



Галіна Юрчанка, як і многія ўдзельнікі Дзяржаўнага народнага хору БССР, прыйшла ў прафесійнае мастацтва з самадзейнасці, у якой яна актыўна ўдзельнічала, калі вучылася ў адным з прафесійна-тэхнічных вучылішчаў Мінска. Зараз Галіна — адна з лепшых выканаўцаў жартоўных беларускіх песень і частушак. Спявае іх ярка, тэмпераментна, з выдатным адчуваннем народнага гумару. Выступленні яе заўсёды надзвычай цёпла прымаюцца гледачамі.

Сёння Галіне Юрчанка і яе сябрам апладзіруюць Барана-вічы. Наперадзе — напружанае гастрольнае лета.

Фота Ул. КРУКА.

## У НУМАРЫ ЧЫТАЙЦЕ:

# ЗА ПАРТЫЮ, ЗА РАДЗІМУ, ЗА КАМУНІЗМ!



Старшыня праўлення Саюза кампазітараў БССР, народны артыст СССР Рыгор Раманавіч Шырма — кандыдат у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР па Абідавіцкай выбарчай акрузе Быхаўскага раёна.



Першы намеснік старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў БССР Іван Пятровіч Шамякін—кандыдат у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР па Пухавіцкай выбарчай акрузе.



Правадзейны член Акадэміі навук БССР, народны пісьменнік Беларусі Міхаіл Ціханавіч Лынькоў—кандыдат у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР па Лагойскай—другой выбарчай акрузе.



Народны мастак БССР, скульптар Андрэй Ануфрыевіч Бембель — кандыдат у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР па Загародскай выбарчай акрузе Пінскага раёна.



Народны паэт Беларусі Аркадзь Аляксандравіч Куляшоў — кандыдат у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР па Верхменскай выбарчай акрузе Смалявіцкага раёна.



Віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук БССР, народны пісьменнік Беларусі Кандрат Кандратавіч Крапіва (Атраховіч)—кандыдат у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР па Стаўбцоўскай выбарчай акрузе.

*13 ЧЭРВЕНЯ — ВЫБАРЫ У ВЯРХОЎНЫЯ САВЕТЫ САЮЗНЫХ І АЎТАНОМНЫХ РЭСПУБЛІК, У МЯСЦОВЫЯ САВЕТЫ ДЭПУТАТАЎ ПРАЦОЎНЫХ.*

**Паслязаўтра, чэрвеньскім чыстым ранкам, мільёны і мільёны савецкіх людзей прыйдуць да выбарчых урнаў.**

**Галасуючы за непарушны блок камуністаў і беспартыйных, яны скажуць «так» роднай Савецкай уладзе, Камуністычнай партыі; яны скажуць «так» нашай савецкай дэмакратыі; яны скажуць «так» нашаму пераможнаму руху да велічнай мэты—камунізма.**

**Сваіх лепшых сыноў і дачок народ вылучыў у народны парламент, у іншыя органы дзяржаўнай улады. Сярод іх нямала і дзеячоў культуры, літаратуры і мастацтва—людзей, якія ўвесь свой талент, усю гарачыню сваіх сэрцаў аддаюць на службу народу, Радзіме і партыі.**

**Галасуючы за сваіх выбраннікаў, савецкія людзі даюць ім наказ—з гонарам трымаць высокае званне народных дэпутатаў.**



Галоўны рэдактар часопіса «Неман», драматург Андрэй Ягоравіч Макаёнак—кандыдат у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР па Савецкай выбарчай акрузе Гродна.



Пісьменнік Пімен Емяльянавіч Панчанка — кандыдат у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР па Пінскай—Усходняй выбарчай акрузе.



Старшыня Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па тэлебачанні і радыё, пісьменнік Вячаслаў Пятровіч Палесні-Станкевіч — кандыдат у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР па Радашковіцкай выбарчай акрузе.



Рэктар Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, народны артыст БССР, кампазітар Уладзімір Уладзіміравіч Алоўнікаў—кандыдат у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР па Смалявіцкай выбарчай акрузе.



Правадзейны член Акадэміі мастацтваў СССР, народны мастак Беларусі Заір Ісакавіч Азгур—кандыдат у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР па Дабралюбаўскай выбарчай акрузе Мінска.



Старшыня Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах будаўніцтва, народны архітэктар СССР Уладзімір Адамавіч Кароль — кандыдат у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР па Крынкаўскай выбарчай акрузе Лёзненскага раёна.

Фота Ул. КРУКА.

## ГАНАРЫМСЯ, РАДУЕМСЯ, ЗАХАПЛЯЕМСЯ!

З пачуццём вялікага гонару і шчырай радасці сустрэлі мы, акцёры тэатра імя Якуба Коласа, хвалюючую вестку аб тым, што ў зорныя прасторы стартаваў касмічны карабель «Саюз-11» з мужным экіпажам у складзе камандзіра карабля падпалкоўніка Георгія Цімафеевіча Дабравольскага, борт-інжынера Героя Савецкага Саюза лётчыка-касманаўта СССР Уладзіміра Мікалаевіча Волкава і інжынера-выпрабавальніка Віктара Іванавіча Пацаева.

Гэта здорава, што пасля паспяхова выкананай стыкоўкі экіпаж «Саюза-11» перайшоў на борт навуковай станцыі «Салют».

Газеты, радыё, тэлебачанне ва ўсім свеце сёння паведамляюць пра навіну нумар адзін: упершыню на калязямной арбіце створана касмічная сістэма «Салют» — «Саюз». Арбітальная навуковая станцыя—яшчэ адзін шырокі, упэўнены крок па касмічнай дарозе.

Усё гэта здзіўляе смеласцю думкі і дакладнасцю навуковых разлікаў. Ашаламляе шырынёй даследаванняў. Гэта — новы трыумф савецкай навукі і тэхнікі.

Работнікі мастацтва, як і ўсе савецкія людзі, захапляюцца новымі дасягненнямі савецкіх касманаўтаў. Жадаем нашым зямным пасланцам вялікага плёну ў іх фантастычным па дзёрзкасці эксперыменце і ўдалага прызямлення. Мы з нецярпеннем чакаем вас, дарагія нашы сокалы.

**Анатоль ШЭЛЕГ,**
**народны артыст БССР.**

## У САЮЗЕ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Адбылося першае пасяджэнне новага прэзідыума праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі, абранага VI з'ездам пісьменнікаў рэспублікі. На пасяджэнні былі разгледжаны і абмеркаваны крытычныя заўвагі і прапановы, выказаныя дэлегатамі з'езда.

З шырокай інфармацыяй па гэтым пытанні парадку дня пасяджэння выступіў старшыня праўлення СП Максім Танк. Ён падрабязна спыніўся на заўвагах і прапановах, якія прагучалі з трыбуны з'езда, гаварыў аб шляхах іх выпраўлення і ажыццяўлення ў практычнай рабоце. У абсягу гэтых праблем—выдавецкія справы, стан нашай крытыкі і літаратуразнаўства, работа з маладымі аўтарамі і прыём у Саюз пісьменнікаў, прапаганда літаратуры, пераклады, творчыя камандзіроўкі, матэрыяльнае становішча пісьменнікаў і інш.

У абмеркаванні гэтых праблем прынялі ўдзел Іван Шамякін, Аляксей Кулакоўскі, Алесь Савіцкі, Максім Лужанін, Андрэй Макаёнак, Кастусь Кірэенка, Тарас Хадкевіч, Янка Скрыган, Янка Брыль, Мікалай Аляксееў, Язэп Семяжон, Павел Кавалёў, Пімен Панчанка, Дзмітрый Бугаёў, Іван Навуменка, Мікола Гамолка, Леанід Прокша.

Была ўхвалена, між іншым, прапанова, каб творчасць паступаючых у члены Саюза пісьменнікаў спачатку абмяркоўвалася на творчых секцыях і па рэкамендацыях секцый ставіць іх кандыдатуры на разгляд прыёмнай камісіі.



Артыст Дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, народны артыст СССР Уладзімір Іосіфавіч Дзядзюшка — кандыдат у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР па Кахоўскай выбарчай акрузе Мінска.



Намеснік старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў БССР Іван Паўлавіч Мележ—кандыдат у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР па Петрыкаўскай выбарчай акрузе.



Галоўны рэдактар сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі студыі «Беларусьфільм», пісьменнік Максім Лужанін (Аляксандр Амбросьевіч Каратай) — кандыдат у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР па Мікашэвіцкай выбарчай акрузе Лунінецкага раёна.

---

Прэзідыум зацвердзіў новы склад прыёмнай камісіі. У яе ўвайшлі: І. Мележ (старшыня), А. Асіпенка (намеснік), М. Аўрамчык, А. Бачыла, Г. Бураўкін, А. Васілевіч, В. Вітка (намеснік), М. Гамолка (сакратар), К. Губарэвіч, В. Каваленка, Ул. Калеснік, М. Кругавых, А. Кулакоўскі, А. Пысін, Б. Сачанка, Я. Скрыган, Ул. Шахавец, Р. Шкраба, Г. Папоў, Хв. Жычка.

Створаны новыя камісіі: па сувязях з літаратурамі народаў СССР і зарубежных краін (старшыня—І. Шамякін) і па ваенна-мастацкай літаратуры (старшыня—М. Аляксееў).

У выступленнях таварышаў, якія прынялі ўдзел у абмеркаванні вынесеных на парадак дня пытанняў, адчувалася шчырая заклапочанасць тым, каб палепшыць работу і творчую дзейнасць пісьменніцкай арганізацыі ў духу рашэнняў XXIV з'езда КПСС,



# ДАБРОТНА, ПРЫГОЖА, МОДНА

*На пытанні карэспандэнта «Літаратуры і мастацтва» адказвае намеснік міністра лёгкай прамысловасці БССР А. М. КАРАЛЁЎ*



У АДНЫМ гумарыстычным апавяданні студэнт на экзаменах, выцягнуўшы пытанне аб развіцці лёгкай прамысловасці, пачаў раптам распранацца, каб паказаць, **што** гэтая прамысловасць выпускае. Гумар не вельмі высокага гатунку, але, скажам прама, нейкую рацыю гэты студэнт меў. Сапраўды, прадукцыя лёгкай прамысловасці—гэта, фігуральна кажучы, усё, што на нас. І нам хочацца, каб была яна добротная, прыгожая і модная. І хоць слова «моднік» не вельмі добразычлівае, і хоць «па адзёжцы сустракаюць, а па розуме праводзяць», у жыцці кожнага з нас—у каго больш, у каго менш, а пра слабую палавіну і казаць няма чаго—клопат аб гэтай самай «адзёжцы» займае не такое ўжо малое месца.

Адметнай асаблівасцю новай пяцігодкі, як гэта было адзначана ў Дырэктывах XXIV з'езда КПСС, з'яўляецца яшчэ большы паварот народнай гаспадаркі да рашэння задач, звязаных з павышэннем дабрабыту народа, у прыватнасці, з задавальненнем попыту савецкіх людзей на адзенне, абутак і іншыя вырабы лёгкай прамысловасці. Унушальныя планы, грандыёзныя лічбы!

Пра тое, як усё гэта будзе выглядаць канкрэтна ў нашай рэспубліцы, мы папрасілі расказаць намесніка міністра лёгкай прамысловасці БССР Анатоля Мікалаевіча Каралёва.

— Лёгкая прамысловасць рэспублікі,—гаворыць Анатоль Мікалаевіч,—вялізная шматгаліновая гаспадарка. А калі дакладна, дык у нас 16 розных галін—тэкстыльная, трыкатажная, швейная, абутковая, скураная і г. д. і да т. п.

За мінулае пяцігоддзе ў рэспубліцы былі пабудаваны такія буйныя прадпрыемствы, як другая чарга Баранавіцкага баваўнянага камбіната, Гродзенская бавоўна-прадзільная фабрыка, Брэсцкі панчошны камбінат, Салігорская фабрыка бельявога трыкатажу, Пінскі трыкатажны камбінат і г. д. Дзесяткі прадпрыемстваў рэканструяваны. Я б мог назваць сапраўды астранамічныя лічбы, калі б пачаў гаварыць, колькі было выпушчана тканіны, панчох, абутку. Заўважу толькі, што за апошнюю пяцігодку пакупнікі атрымалі тавараў народнага ўжытку на 9,2 мільярда рублёў або амаль столькі, колькі за дзевяць папярэдніх гадоў.

У новым пяцігоддзі работнікам лёгкай прамысловасці прадстаіць павялічыць аб'ём валавай вытворчасці амаль у паўтара раза.

— Ох, гэты вал... А што маецца канкрэтна на ўвазе?

— Робіцца ўхіл на павелічэнне тавараў павышанага попыту. Заўважце, не наогул масавага ўжытку, а менавіта павышанага попыту. Скажам, на курткі, на якія зараз вялікая мода, уцяплёны абутак, тканіну для коўдр і г. д.

Больш чым на 40 працэнтаў павялічыцца выпуск баваўняных вырабаў, на столькі ж швейных, у паўтара раза трыкатажу, у сем разоў шаўковых тканін.

Наша Беларусь—рэспубліка вялікай хіміі. А хімія сёння можа даваць нам паўнацэнную замену воўны, натуральнага шоўку, скуры—традыцыйных матэрыялаў, якія спакон веку верна служылі чалавеку.

Так, скажам, Магілёўскі шаўковы камбінат, будаўніцтва якога будзе закончана ў гэтай пяцігодцы, будзе даваць на базе хімічнай сыравіны да 49 мільёнаў метраў шоўку ў год. Для параўнання скажам, што зараз гадавы выпуск шоўку па ўсёй рэспубліцы не перавышае 17 мільёнаў метраў.

Той жа Магілёўскі камбінат будзе даваць крэмплен—малаэластычны лаўсан, які мы зараз купляем у Францыі і Японіі.

У Брэсце і Кобрыне ў гэтай пяцігодцы пачынаюць узводзіцца два вялікія прадпрыемствы па выпуску штапельных касцюмных тканін, магутнасцю да 90 мільёнаў метраў у год.

Да нашых буйных новабудоўляў трэба аднесці і трэцюю чаргу Аршанскага льнокамбіната, дзе будзе выпускацца льняное палатно самай высокай якасці—тыпу батысту. Такое палатно карыстаецца велізарным попытам і высока цэніцца не толькі ў нас, а і за мяжой.

У канцы гэтага года мы пачынаем будаўніцтва ў Гродне нітачнага камбіната магутнасцю 200 мільёнаў умоўных шпулек у год. Да гэтага ў рэспубліцы не было такога прадпрыемства. Ды і ва ўсёй краіне іх адзінкі.

Гэта адказ на вашу заўвагу пра «вал». Як бачыце, у рэспубліцы наладжваецца выпуск прадукцыі, так сказаць, самага шырокага дыяпазону.

Асноўны ж прырост прадукцыі, менавіта 75 працэнтаў, будзе атрыманы са старых прадпрыемстваў у выніку рэканструкцыі, пераасначэння і лепшага выкарыстання магутнасцей. Капітальныя ўкладанні ў гэтую справу ў параўнанні з мінулай пяцігодкай узрастаюць больш, чым у два разы і складуць 600 мільёнаў рублёў. Наш пяцігадовы план па тэхнічным прагрэсе прадугледжвае ўстаноўку 10 тысяч адзінак абсталявання, вялікія работы па механізацыі і аўтаматызацыі вытворчасці, укараненні новай тэхналогіі на многіх прадпрыемствах. Прывяду такі прыклад. Пры цяперашнім абсталяванні, на большасці швейных фабрык на пашыў адной кашулі швачка затрачвае 45—50 мінут. Але ўжо сёння мы атрымліваем машыны, якія даюць магчымасць рабіць гэтую аперацыю ўдвая хутчэй.

— Але ж «многа»—гэта яшчэ не заўсёды «добра». У сваім дакладзе на XXVII з'ездзе Камуністычнай партыі Беларусі старшыня Савета Міністраў БССР Ц. Кісялёў, у прыватнасці, адзначыў, што ў мінулым годзе швейным прадпрыемствам было вернута шмат вырабаў з-за іх нізкай якасці...

— Так, у чацвёртым квартале мінулага года і ў пачатку гэтага ў магазінах засталося многа нерэалізаванай вопраткі і абутку...

— Але ж нерэалізаваная прадукцыя—гэта не толькі ўдар па пакупніку, гэта б'е і па дзяржаўнай кішэні? Дрэнна пашыты касцюм ці паліто не пашлеш ў «пераплаўку».

— Прадпрыемствы, якія выпускаюць брак, нясуць за гэта матэрыяльную адказнасць. Так, Пінскай фабрыцы па пашыве дзіцячага адзення нядаўна была вернута вялікая партыя хлапчуковых штаноў, якія не знайшлі збыту. Натуральна, фабрыка панесла на гэтым убыткі.

— І на кім канкрэтна гэта адбілася?

— Калектыў фабрыкі не атрымае прэміяльных, будзе пазбаўлены і іншых мер матэрыяльнага заахвочвання.

Я кажу Анатолю Мікалаевічу, што матэрыял, з якога пашыта адзенне нашымі фабрыкамі, не саступае ў якасці, дакладней, у трываласці імпартнай прадукцыі. Тым не менш, паглядзіце, як паводзіць сябе большасць пакупнікоў. Толькі зірнуўшы на кардонны ярлык з назвай фабрыкі (дарэчы, ярлыкі ў нас нібы знарок робяць такімі, каб іх не хацелася браць у рукі—кавалак шэрага кардону, на якім сляпым шрыфтам набраны нікому не зразумелыя лічбы і словы) чалавек, як правіла, праходзіць міма, шукаючы кідкі, яркі і прыгожы ярлык з эмблемай ГДР, Польшчы ці Румыніі. Справа, вядома, не ў ярлыку, а ў тым, што прадукцыя нашых сяброў куды больш модная і элегантная. Дарагія і танныя імпартныя касцюмы адрозніваюцца толькі якасцю тканіны, а не якасцю пашыву. Тое самае можна сказаць і пра абутак.

— Думаю, што вы трошкі перабольшваеце,—гаворыць намеснік міністра,—ідуць добра і многія нашы тавары. Асабліва ў вёсцы. А што мы, на жаль, адстаем ад моды, дык мода, ведаеце, рэч капрызная...

— І ўсё-такі, людзі, якія ведаюць выпускам тканін, адзення і абутку, павінны, фігуральна кажучы, трымаць пальцы на пульсе пакупніка, каб ведаць, што ён любіць, што патрабуе. Інакш, дзе гарантыя, што не паўторыцца гісторыя з хлапчуковымі штанамі, якія выдалі на-гара ў Пінску?

— Нашы прадпрыемствы трымаюць цесную сувязь з гандлюючымі арганізацыямі, якія рэгулярна праводзяць канферэнцыі пакупнікоў, дзе вывучаюць попыт на тую ці іншую прадукцыю. Мы імкнемся кіравацца гэтымі дадзенымі. І ні адзін узор у нас не зацвярджаецца без ведама гандлюючых арганізацый. Іншая справа, што некаторыя прадпрыемствы не заўсёды праяўляюць гнуткасць, не заўсёды хутка перабудоўваюць сваю работу. Ды і, сказаць, шчыра, не так лёгка змяніць цэлы тэхналагічны працэс.

— Не аднойчы даводзілася чуць,—кажу я Анатолю Мікалаевічу,—як работнікі гандлю скардзяцца на швейнікаў, а тыя, у сваю чаргу, на тэкстыльшчыкаў, тэкстыльшчыкі на хімікаў, якія не даюць ім добрай фарбы, і так бясконца...

— Працаваць трэба ўсім добра. Вось наш Бабруйскі скураны камбінат выпускае прадукцыю пераважна цёмных тонаў, у той час, калі для моднага мадэльнага абутку патрэбна скура светлых тонаў. А што будзеш рабіць? Не хапае адпаведных фарбавальнікаў. Нам трэба развіваць і калодачную прамысловасць. У нас не хапае калодак для мадэльнага абутку.

— А як вашы прадпрыемствы забяспечаны спецыялістамі, якія вызначаюць колер, расцветку тканіны, сілуэт адзення, мадэль абутку?

— Скажам, на Мінскім камвольным камбінаце працуе 5 мастакоў-дысанатараў, якія распрацоўваюць структуру і каларыт тканіны. Працуюць мастакі на іншых прадпрыемствах, у дамах мадэляў. А наогул, іх не хапае. Наш Мінскі тэатральна-мастацкі інстытут дае нам вельмі мала спецыялістаў. Ды і не кожны хоча працаваць на прадпрыемстве.

Адным словам, праблем хапае. Яшчэ аб адной з асноўных праблем, якія стаяць перад лёгкай прамысловасцю. Гэта развіццё пярвічнай апрацоўкі льну. У гэтую галіну будзе накіравана амаль чацвёртая частка ўсіх капіталаўкладанняў.

Справа ў тым, што сёння пярвічная апрацоўка льну са значнай часткі пасеваў робіцца ў калгасах, робіцца, па сутнасці, саматужным спосабам. Стаіць задача — у бліжэйшыя гады перайсці на прамысловае прыгатаванне трасты.

За мінулае пяцігоддзе на будаўніцтве прадпрыемстваў пярвічнай апрацоўкі льну асвоена ўсяго 10 мільёнаў рублёў—па чатыры мільёны ў год. А ў новай пяцігодцы мы павінны будзем асвойваць па 25—27 мільнаў рублёў у год.

Важнае пытанне — якасць льнопрадукцыі, якую калгасы здаюць нам. Сярэдні нумар яе за апошнія гады зніжаецца. Мы лічым, што ў рэспубліцы неабходна распрацаваць і ажыццявіць сур'ёзныя меры па спецыялізацыі гаспадарак, гатункаабмене і паляпшэнні вырошчвання льну.

У заключэнне нашай гутаркі мне хочацца падкрэсліць, што работнікі лёгкай прамысловасці рэспублікі добра разумеюць сваю ролю ў павышэнні дабрабыту савецкіх людзей і зробяць усё магчымае, каб дабіцца рэзкага павелічэння выпуску тавараў самай высокай якасці.

**М. ЗАМСКІ.**

КІНО

# РАЗВЕДКА НОВЫХ ПЛАСТОЎ

КОЖНЫ ДЗЕНЬ газеты, радыё, тэлебачанне прыносяць нам весткі пра класавыя катаклізмы, што скаланаюць планету, пра ўзмоцнены нацыянальна-вызваленчы рух...

Планета кіпіць. І тым большае значэнне набывае сёння палітычны кінематограф, які закранае надзённыя праблемы часу.

Савецкі экран, бадай, яшчэ не паглыбляўся ў напружанне палітычнай барацьбы ў каланіяльнай краіне так, як гэта паспрабавалі зрабіць беларускія кінематаграфісты ў фільме «Чорнае сонца». Вялікая адказнасць ляжала на майстрах нашага нацыянальнага кінематографа, якія ўзяліся за такую тэму. Матэрыялам для фільма з'яўлялася адначасова і гісторыя, і сама сучаснасць.

— Гэта карціна з'явілася для мяне развіццём кінематаграфічнага і тэатральнага вопыту апошніх гадоў, — кажа пастаноўшчык карціны А. Спешнеў. — Я імкнуўся разглядаць сучаснага чалавека на шырокім палітычным фоне, шукаў для гэтага новыя сродкі пабудовы сюжэта, характараў, кампазіцыі...

Варта зазначыць, што фільм — пэўны этап у творчасці рэжысёра, у развіцці нашай кінематаграфіі і, можа, у нейкай ступені, ва ўсім савецкім кінамастацтве. Разведка ў жанры палітычнага фільма, спроба ўзяць «гарачы» яшчэ матэрыял, імкненне памастацку вобразна расказаць пра палітычныя канфлікты, што не сціхаюць ні на дзень на афрыканскім кантыненце,—усё гэта характарызуе патрэбную мастацтву задуму фільма «Чорнае сонца». Задача драматургаў была вельмі складаная — вывесці на экране ў якасці галоўнага персанажа афрыканскага палітычнага лідэра, барацьбіта, трагічнага героя, які гіне, бо не разумее безабароннасці дабраты без падтрымкі сілы, бо церпяць крах яго ілюзіі — спадзяванні толькі на чалавечнасць і гуманнасць.

Драматурга і рэжысёра А. Спешнева цягне да пастаноўкі складаных філасофскіх фільмаў, да так званага інтэлектуальнага кінематографа. Іншая справа, што не заўсёды ён дасягае пастаўленай мэты. Калі, напрыклад, уся тэхніка рэжысёрскага майстэрства выкарыстана дзеля таго, каб схаваць схематызм характараў і штучнасць канфліктаў (як у фільме «Тысяча вокнаў»), то фільм не будзе сапраўднай удачай. Калі ж сучасная форма, пластычная выразнасць адлюстравання жыцця дапамагаюць вобразнаму раскрыццю ідэі — дапушчальны і апраўданы любыя мастацкія прыёмы.

У гэтым сэнсе паказальныя адны і тыя ж, здаецца, прыёмы, якія зусім па-рознаму «іграюць» у фільмах А. Спешнева ў залежнасці ад кантэксту. Напрыклад, рэжысёр неаднаразова ўжывае «ажыўленне» рэчаў, стыхію чалавечых галасоў, якія гучаць у пустых пакоях. Так, у фільме «Масква—Генуя» зала раптам напаўняецца галасамі статуй, якія нібы каменціруюць прыезд савецкай дэлегацыі ў Генуя. У карціне «Тысяча вокнаў» студэнт Андруша нібы выслухоўвае прамовы дэлегатаў ААН, якія абвінавачваюць яго ў знікненні Расіты (у дадзеным выпадку штучнасць прыёму працуе супраць намераў аўтара). А вось у «Чорным сонцы» апраўданы і прамовы дэлегатаў, якія быццам бы чуюць за доўгім пустым сталом ААН Мусомбе і Барт, і ўнутраныя маналогі-сны Мусомбе, якія «накладваюцца» на хранікальна знятыя пейзажы Афрыкі.

Сны Мусомбе («Чорнае сонца») у нечым нагадваюць сны Жуля («Тысяча вокнаў»), але іх увядзенне больш апраўдана ў апошнім фільме Спешнева, бо яны не проста дэкаратыўная аздоба, экзотыка ў чыстым выглядзе, а адзін з неабходных кампанентаў стылістыкі фільма. Мусомбе не толькі прэм'ер-міністр, ён яшчэ і паэт. Таму яго сны ўспрымаюцца як пластычнае выяўленне яго паэтычнага светаўспрымання. (Зазначым, што асабліва пасля фільма «Іванава дзяцінства» прыём увядзення сноў-мараў, сноў-прывідаў стаў даволі модным у нашым кінематографе, і часам аўтары карыстаюцца ім без мастацкай апраўданасці. Але гэта не значыць, што сам прыём дыскрэдытаваны, бо ўсё залежыць ад аўтарскага густу. І калі, напрыклад, мы бачым у фільме «Бег» сны-прывіды Хлудава, гэта і выразнае раскрыццё стану яго душы, і вобразнае выяўленне ідэі твора).



Кадр з фільма «Чорнае сонца». Робер Мусомбе — А. М'біа.

У фільме «Чорнае сонца» А. Спешнеў разам з аператарам Ю. Марухіным віртуозна карыстаюцца сучаснымі формамі кінамовы. Хацелася б прыгадаць шэраг па-майстэрску сыграных акцёрамі і дэталёва распрацаваных з пластычнага і гукавога бакоў эпізодаў. Гэта «ўрок» у эксперыментальнай школе, які праводзіць Мусомбе з адзіным маленькім хлопчыкам (потым гэтыя ж інтэр'еры абыгрываюцца ў фінале, дзе ў школе дапытваюць палоннага прэм'ер-міністра). Гуказрокавы кантрапункт удала выкарыстаны ў эпізодзе ў парламенце, дзе Мусомбе патрабуе вотуму давер'я. А якія дакладныя па тэмпе і рытме, умелым увядзенні музыкі і шумаў сцэны ўцёкаў Мусомбе са зняволення ці яго паездкі інкогніта ў аўтобусе, сярод шумлівых, занятых сабой спадарожнікаў.

Аператар Ю. Марухін добра перадае атмасферу дзеяння, ствараючы выразныя партрэты Мусомбе, Ніколь, іх ворагаў. Экран праўдзіва перадае агульную танальнасць мастацкай формы. Акцёр Амбруаз М'біа, які прайшоў шматгадовую практыку ў тэатры вялікага французскага міма і драматычнага акцёра Жана Луі Баро, зняты аператарам пластычна выразна. Падкрэслена неўтаймаванасць яго пачуццяў, неспакой роздуму пра лёс народа (якія ўдумлівыя яго вялізныя вочы!). Кінапартрэт яркай чалавечай асобы зроблены пераканаўча.

Сказаўшы ўсе добрыя словы пра фільм, умелую рэжысуру, добрую акцёрскую і аператарскую работу, удалае выкарыстанне музыкі, нельга ўсё ж не далучыцца і да тых галасоў у нашай кінакрытыцы, якія зазначаюць пэўную эмацыянальную халаднасць фільма. Чым гэта тлумачыцца? Многія сцэны пакідаюць гледача абы-

«Чорнае сонца», «Беларусьфільм». Сцэнарый А. Спешнева і К. Кісялёва, рэжысёр-пастаноўшчык А. Спешнеў, аператар Ю. Марухін, мастак Я. Ігнацьеў.

# РАЗМОВА, ЯКАЯ ПАТРАБУЕ ПРАЦЯГУ...

*ВЫЯЗНОЕ ПАСЯДЖЭННЕ ПРЭЗІДЫУМА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ТЭАТРАЛЬНАГА АБ'ЯДНАННЯ У ГРОДНЕ*

ДЗІВА дзіўнае Гродна раннім летам! Яшчэ ўчора, калі мы пакідалі Мінск (мы — гэта ўдзельнікі выязнога пасяджэння прэзідыума праўлення БТА), было холадна, дзьмуў пранізлівы, злосны вецер — а тут нібы нехта перакуліў на нас бясконцы блакіт неба і маладая лістота, што толькі-толькі праклюнулася, бліщчала на сонцы, быццам вытканая з атласу і парчы, а бялютка-ружовыя сады здаваліся хутчэй тэатральнай дэкарацыяй, чым сапраўднымі. Хаця такое параўнанне рызыкоўнае.

Потым, на працягу чатырох дзён, мы глядзелі спектаклі Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра і вельмі ж часта адбываўся адваротны працэс: там, дзе мы павінны былі ўбачыць ясныя і трапныя прыкметы жыцця, на першы план выступала тэатральшчына і надуманасць.

**Іншы раз здавалася, што спектаклі гэтыя нараджаюцца не на дарогах жыцця, а недзе побач. Хаця артысты гродзенскага тэатра многа ездзяць, сустракаюцца з гледачамі. Як паведаміў у сваім выступленні дырэктар тэатра Уладзімір Сцяпанавіч КУРУТА, тэатр сістэматычна выконвае і перавыконвае фінансавы план, яго калектыў прымае актыўны ўдзел у грамадскім жыцці горада, аказвае вялікую дапамогу самадзейнасці, даўно сябруе з рабочымі і служачымі баваўняна-прадзільнай фабрыкі. (Толькі дзяўчат там каля трох тысяч!).**

**Пабывалі там і мы. Нашым гідам аказалася сакратар камсамольскай арганізацыі фабрыкі Ядзя Краўчанка. Высокая, тоненькая, з дзіўнаватымі вачыма — глядзіш у іх, а там—бясконцасць. Яна гаварыла мала. Папершае, шумна, па-другое, відаць, добра разумее, што лепш адзін раз убачыць... Час ад часу яна давала характарыстыку той ці іншай работніцы. Лаканічна. Трапна. Так трапна, што адразу ўяўлялася біяграфія чалавека, пра якога ішла гаворка, і, больш таго, яго духоўны свет, інтарэсы. І па тым, як яна гаварыла пра людзей, як глядзела на іх, як ішла, віталася, сур'ёзнела, задумвалася, я жыва ўяўляла сабе, што за чалавек Ядзя, чаму яна тут працуе, што для яе дарага ў жыцці, калі можна так сказаць, якому «богу моліцца». Вось такую б убачыць на сцэне — жывую, сапраўдную.**

Увечары мы прыйшлі ў тэатр з надзеяй сустрэцца з героямі, падобнымі на Ядзю і яе сяброў. Далі (як калісь прыгожа гаварылі) спектакль «Казкі старога Арбата» па п'есе А. Арбузава. Галоўны герой п'есы Фёдар Баляснікаў — чалавек назвычайны, таму ён усё бачыць неяк па-свойму і ўсе навокал «заражаюцца» ад яго і раскрываюцца дзякуючы яму па-асобаму. Гэта, бадай, п'еса пра мудрасць і чароўнасць жывога жыцця, пра бясконцасць яго. Гэта, бадай, п'еса пра тое, як цудоўна, дзівосна і адказна быць чалавекам. У гэтых «Казках» — праўда, а ў праўдзе — казкі, без якіх немагчыма жыццё. Чатыры вечары запар глядзелі мы спектаклі Гродзенскага абласнога тэатра, а потым сабраліся на абмеркаванне: пра астатнія спектаклі — далей, а пакуль — «Казкі старога Арбата».

Мастацтвазнаўца **А. Саннікаў** назваў гэты спектакль цяжкім. Сапраўды, гаварыў ён, гэта п'еса-споведзь, п'еса акварэльная, якая патрабуе ад артыстаў своеасаблівага падыходу і своеасаблівага рэжысёрскага вырашэння. На жаль, малады рэжысёр В. Скарабагатаў не адчуў (або не здолеў раскрыць) глыбокіх падтэкстаў п'есы, канфліктаў (не знешніх — унутраных) паміж Балясніікавым і яго сынам Кузьмой, Балясніікавым і Віктошай, канфліктаў вельмі важных для выяўлення галоўнай думкі п'есы аб творчым гарэнні, якое робіць жыццё чалавека падобным на цудоўную казку, аб перамогах чалавека над самім сабой.

**Не ўдалося і афармленне спектакля (мастак М. Якунін). Няма галоўнага — кватэры Балясніікава на старым Арбаце. А вядома, што рэчы, якія акружаюць чалавека, шмат што могуць расказаць аб іх гаспадары. Пра гэта гаварыў у сваім выступленні кандыдат мастацтвазнаўства Г. БАРЫШАЎ. Удачай мастака ён лічыць лялькі, якія развешаны ў пакоі Балясніікава. Яны — душа яго, зроблены з густам і любоўю. І вельмі шкада, што ўсё афармленне спактакля не на ўзроўні гэтых важкіх дэталяў.**

Гарачыя спрэчкі разгарнуліся вакол спектакля «Навальніца». І гэта натуральна. Рэжысёр, які бярэцца за пастаноўку класікі, асабліва п'есы, якая стала ўжо хрэстаматыйнай, павінен ясна ўяўляць, у імя чаго ён будзе сёння ставіць гэтую п'есу, чаму менавіта гэтую, а не іншую, ці зможа ён сваім спектаклем адказаць на хвалюючыя пытанні жыцця.

Рэжысёр А. Струнін хацеў панавому раскрыць драму Кацярыны, паказаць, што яна мае права на каханне. Так убачыў «задумку» спектакля мастацвазнаўца **А. Лабовіч**. Але з-за таго, што вельмі павярхоўна паказана цёмнае царства, у якім жыве і з якім робіць спробу змагацца Кацярына, зніжаецца сацыяльны канфлікт драмы. Носьбітамі цёмнай сілы з'яўляюцца Кабаніха і Дзікой. Вопытная актрыса А. Панкрат знайшла цікавы знешні малюнак ролі, але пакуль што яшчэ не раскрыла страшэннай сутнасці гэтай жанчыны, яе дэспатызм, жорсткасць, цынізм. Кабаніха не проста злая, яна жахлівы вырадак свайго часу. Не знайшоў выразных фарбаў для характарыстыкі Дзікога і артыст Ю. Іваноў. У спектаклі ёсць рацыянальная рэжысёрская зададзенасць, з якой артысты не могуць вырвацца.

**Гэтую думку падтрымаў народны артыст СССР П. МАЛЧАНАЎ. Ён спыніў сваю ўвагу на рабоце артысткі Т. Нікалаевай, якая выконвае ў спектаклі ролю Кацярыны. Яна шчырая, праўдзівая, пластычная, музычная — так ахарактарызаваў П. Малчанаў маладую актрысу. У апошняй сцэне, сказаў ён, Т. Нікалаева пераступіла рэжысёрскую схему, рэжысёрскія заданні і пачала гаварыць ад сябе. Вось тут і праявіліся здольнасці і тэмперамент — усё тое сапраўднае, што ёсць у актрысы. П. Малчанаў лічыць, што ў сцэнах Кудраша (артыст С. Кліменка) і Варвары (артыстка Л. Юзэфовіч) мала зухаватасці і любоўнага імпэту. І зноў-такі артыстаў стрымліваюць не вельмі цікава пабудаваныя мізансцэны. На думку ж А. Лабовіча, у Варвары і Кудраша ёсць не знешняя зухаватасць, а тая ўнутраная сіла, дзякуючы якой яны хоць на нейкі час вырываюцца з царства зласлівасці, прыніжэння і рэлігійнага дурману.**

Шмат добрых слоў было сказана ў адрас выканаўцы ролі Ціхана Л. Стваркіна. Сапраўды, ён паказаў не проста ахвяру цёмнага царства, а і канкрэтны характар. Паступова, ад сцэны да сцэны, ад дзеі да дзеі раскрываецца перад намі складаны, горкі лёс чалавека.

Не атрымаўся ў спектаклі Кулігін. А шкада — бо гэта адзін з тых дзівакоў, на якіх свет стаіць. Віна тут, відаць, у роўнай ступені і акцёра А. Царова, і рэжысёра, які не паставіў перад ім пэўнай задачы.

**Акцёр не мае права выходзіць на сцэну, калі ён дакладна не ведае, дзеля чаго ён выходзіць, сказала ў сваім выступленні на абмеркаванні народная артыстка БССР Г. АБУХОВІЧ. Яе асабліва занепакоіла няўменне акцёраў жыць на сцэне, пераўвасабляцца. Як правіла, іграецца вынік. Героі прыходзяць у спектакль гатовенькія, а сам працэс адбываецца недзе па-за сцэнай. Прыкладам таму — Барыс з «Навальніцы» ў выкананні артыста У. Мышко. У імя справядлівасці трэба сказаць, што роля гэтая самая няўдзячная ў п'есе. І ўсё-такі для характарыстыкі гэтага персанажа шмат што можна знайсці. Пакуль што У. Мышко іграе толькі жаль да героя. Таму ўжо ў першай дзеі ўсё сыграна.**

Гродзенцы амаль кожны сезон ставяць п'есы беларускіх драматургаў. Сярод апошніх прэм'ер — п'есы А. Петрашкевіча «Адкуль грэх?», М. Матукоўскага «Амністыя», А. Макаёнка «Трыбунал».

Чым кіраваўся калектыў, уключаючы ў свой рэпертуар п'есу А. Макаёнка «Трыбунал»? Модай? Усе ставяць, і мы будзем ставіць? Альбо гродзенцаў захапілі ідэйна-мастацкія якасці п'есы? Гэтыя пытанні, сказаў мастацтвазнаўца **С. Пятровіч**, узнікаюць таму, што са спектакля не зусім ясна, у імя чаго ставілася п'еса. «Мне давялося жыць на акупіраванай ворагам тэрыторыі, і я добра ведаю, — сказаў між іншым С. Пятровіч, — што такое фашысты. У спектаклі ж фашысты і іх памагатыя нейкія невыразныя і зусім не такія страшныя, якімі былі на самой справе...»

**Вядома, што калі адмоўныя персанажы не маюць свайго аблічча, калі яны не жывыя людзі, а толькі сімвалы, дык і станоўчыя героі выглядаюць схематычна, а іх учынкі носяць умоўны характар: знікае канфлікт — аснова асноў усякага драматургічнага твора, адзначыў у сваім выступленні А. САННІКАЎ.**

Іншую думку наконт спектакля «Трыбунал» выказаў П. Малчанаў. Ён лічыць, што галоўны герой

якавым, бо ў іх праявіліся тыя ж тэндэнцыі да залішняй прыгажосці, вытанчанасці і дэкаратыўнасці кадра, што і ў папярэднім фільме А. Спешнева «Тысяча вокнаў». Напрыклад, у сцэне ў парламенце асноўная ўвага ўдзелена падкрэсленай «сапраўднасці» дэкарацый. Запамінаюцца ў асноўным фрэскі, на фоне якіх размешчаны ў цэнтры кадра стары старшыня парламента з люлькай у вусах. Стары такі ж маляўнічы і потым, з гэтай жа люлькай, прывязаны да слупа перад смерцю... Занадта дэкаратыўнай атрымалася і Ніколь з яе не «папсаваным» нават за імгненне да смерці грымам. Па сутнасці, распрацаваны больш-менш дэталёва ў фільме толькі характар галоўнага героя. Астатнія персанажы пры ўсёй іх эфектнай тыпажнасці ў той ці іншай ступені з'яўляюцца персаніфікаванымі ілюстрацыямі тэзісаў. А тэзіс сам па сабе не можа хваляваць сэрца гледача, калі ён не ўвасоблены ў жывы паўнакроўны мастацкі вобраз чалавека. Мо таму эмацыянальна халоднымі пакідае нас уяўная спрэчка — філасофскі дыялог мёртвых — Мусомбе і саветніка ААН Джона Барта (артыст М. Грынько). Зноў жа замест паядынку жывых людзей — адкрытая кінематаграфічная ілюстрацыя да пэўных палітычных дыспутаў.

Можна было б дакараць аўтараў і за тое, што ў шэрагу эпізодаў фразы са значнай сэнсавай нагрузкай вымаўляюцца героямі як бы мімаходзь, скарагаворкай. Можна было б пажадаць і большай распрацаванасці характараў прадстаўнікоў народа — тых, хто падтрымліваў Мусомбе. Мабыць, калі б аўтары не захапляліся экранным жывапісам і арыгінальным мантажом, іх увага засяродзілася б на раскрыцці чалавечай натуры.

Аднак было б несправядлівым не ўбачыць і галоўнае — у нашым кінамастацтве робяцца крокі ў новым, нязведаным кірунку, ідзе экранная разведка новых пластоў жыцця. Хай не ўсё ўдалося, але кірунак узяты правільны.

**Вольга НЯЧАЙ.**

Цярэшка адразу, з першага з'яўлення на сцэне нясе тую трагедыю, якая выпала на яго долю. Артыст А. Цароў — Цярэшка жыве складаным жыццём свайго героя. Па-народнаму сакавіта іграе Паліну — жонку Цярэшкі А. Панкрат.

**Аднак усе выступаючыя сышліся на тым, што ў другой палове спектакля, калі родныя Цярэшкі за здраду Радзіме вынеслі яму смяротны прысуд, — не іграецца трагедыя. Праз што павінны прайсці жонка і дзеці, каб прыгаварыць мужа і бацьку да такой суровай кары? — паставіла пытанне Г. Абуховіч. Калі гэта так проста, як атрымліваецца на сцэне гродзенскага тэатра, дык, відаць, не варта было ставіць п'есу.**

**Аб неабходнасці дапрацаваць фінал спектакля, які пакуль яшчэ выглядае статычным і мала эфектным, гаварылі П. Малчанаў і С. Пятровіч. Глыбей і дакладней варта распрацаваць характар Валодзькі артысту А. Байкову, бо пакуль яго ўчынкі здаюцца мала абгрунтаванымі. Наогул вобраз гэты супярэчлівы, не надта дакладна выпісаны ў п'есе, ён патрабуе асаблівай ўвагі з боку рэжысёра і маладога выканаўцы.**

Наогул, прынцыпы работы з моладдзю ў тэатры не заўсёды вытрымліваюцца на належным узроўні. Мала даць ролю, трэба, каб гэтая роля прагучала, каб кожная станавілася вяхой на творчым шляху. На жаль, даводзіцца канстатаваць, што многія маладыя артысты гродзенскага тэатра дрэнна рухаюцца, не валодаюць голасам, не ўмеюць слухаць партнёра.

Па-творчы невыразным атрымаўся ў дыпламанта Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута Н. Прыёмкі спектакль па п'есе В. Лаўрэнцьева «Галава сям'і». Адказнасць за яго няўдачу павінны падзяліць кіраўнікі тэатра і педагогі тэатральнага інстытута, якія абавязаны навучыць маладога рэжысёра знаходзіць глыбокае і арыгінальнае сцэнічнае ўвасабленне такіх спрэчных п'ес, як «Галава сям'і», працаваць з выканаўцам.

Галоўны рэжысёр тэатра А. Струпін і народны артыст БССР Я. Кімберг, які ўзначальвае мясцовае аддзяленне БТА, падзякавалі ўсім удзельнікам выязнога пасяджэння за добразычлівую крытыку і парады.

Ну, а сустрэча з героямі, падобнымі на Ядзю і яе сяброў, на сцэне тэатра ў Гродне пакуль што не адбылася. Хочацца верыць, што такая сустрэча будзе!..

**Ірына ПІСЬМЕННАЯ,**
спец. кар. «Літаратуры і мастацтва»




Антон БЯЛЕВІЧ



## ГАСПАДАР

У зімы прасіла шчыра восень:
— Не вядзі мяцеліцу з тайгі,
Покі жураўлі яшчэ галосяць,
Ды ў барознах грэюцца плугі;

Покі я кашу яшчэ атаву,
Падмятаю ветрам жоўклы сад,
Покі тонкім лёдзікам канаву
Не зашкліў віхурны лістапад.

А пасля ў вясны зіма прасіла:
— Дай на свеце трохі паліпець,
Покі дроў з лясоў не навазіла
Па дарозе саннай пад павець.

У майстэрнях трэба агрэгатам
Даць належны стан і пэўны лад,
Трэба лемяхі ў плугах залатаць,
Вывесці машыны на парад.

А вясна звярталася да лета:
— Не сушы чаромхі маладой,
Не смалі чырвоных, сініх кветак,
Не касі красы мае касой;

Не спыняй напеў мой салаўіны
Цёплай сенакоснаю парой.
Хай звіняць дубровы і даліны
Пад высокім сонцам і зарой.

Лета спелай восені сказала:
— Ты на пяткі мне не наступай,
Покі я палеткаў не дажала,
Не спякла свой новы каравай;

Покі яшчэ шумныя чароды
Качак і гусей на хвалях рэк...
— Падуладны мне ўсе поры года! —
Абвясціў пад сонцам чалавек.

— У валёнкі я зіму абую,
А вясну я ў квецень агарну,
Лету дам пшаніцу залатую,
У калоссі лета апрану.

Восень будзе ў рунь маю адзета,
У лісты чырвоныя, як жар...
Гаспадар я ўсёй зямлі вось гэтай,
Усяе краіны гаспадар!

## ЦУДАДЗЕЙНЫЯ

Паднімуся з пасцелі да ранку я,
Лусту хлеба ў кішэнь пакладу,
Я пайду, падпярэзан маланкаю,
Я, апрануты ветрам, пайду.

Заплікну палітончык я зоркамі.
Мой ліхтарык—паўмесіка рог.
З адзінотай, нудотаю горка мне,
Сэрца просіцца новых дарог.

Павядуць яны, блізкія, дальнія,
У хаду несупынных падзей;
Павядуць мяне ў ранкі світальныя,
Да руплівых і шчодрых людзей.

Хоць яны не асыпаны ружамі,
Хоць не ў белых пальчатках яны,
Ды рукамі разумнымі, дужымі
Узнялі пад зару каміны
На пустэчах сівых над заводамі,
Абудзіўшы гудкамі глухмень;
Параднiўшы жалеза з прыродаю,
Адкааўшы нам сонечны дзень;

Асвяціўшы, сагрэўшы вагранкамі
Нашу радасць і нашу нуду...
Я пайду, падпярэзан маланкаю,
Я, апрануты ветрам, пайду,

Покі ранак туманны за рэчкаю
Не мянташыць, не вострыць касу,
Я паклон і падзяку сардэчную
Чарадзеям жыцця панясу.

## ЁН І ЯНА

Прыйшла ў яго майстэрню жонка,
Халоднага прынесла квасу.
А ён стаіць у стружках тонкіх,
Шургоча гэблік плаўна, звонка.
Габлюе муж! Не мае часу.

Яна сказала: — Можа, трошкі
Ты адпачнеш? Пакінь работу.
А ён:—Габлюю, жонка, дошкі
Не на труну. Мая работа
Дае вялікую ахвоту
Рукам і гэбліку. Ты чуеш?
Глядзі! От стружка залатая!
— Са стружкай, можа, заначуеш? —
Яна з усмешкаю пытае.

— Цябе да змроку ад світанку
Не бачу я, не бачыць хата.
Магчыма, друг мой, на фуганку,
На гэтым гэбліку жанаты?

Цябе даўно чакае ў печы
Гаршчок адменнай верашчакі...
А ён абняў яе за плечы,
Сказаў: — Сумуюць, небаракі,
Без рук маіх, без добрай працы
Рубанкі, гэблікі, фуганкі.
Яны гатовыя старацца,
Не намакаўшыся мачанкі.
Не трэба ім пітва. І хлеба
Яны не просяць ані крошкі...
Пытае жонка: — Што ім трэба?
— Харошыя, сухія дошкі.
Патрэбна ім душы натхненне
І ўмельства добрае таксама...
Стаіць у стружках па-калені,
Габлюе ён для вокнаў рамы.
Уставіць шыбы. Заіскрыцца
У шыбах сонца залатое.
Гэ! Жонцы можна ганарыцца
Дзівоснаю работай тою!

Глядзіць, ад шчасця маладзее,
Гаворыць мужу: — А, дарэчы,
Ты добрым талентам надзелен! —
І абняла яго за плечы.

Плячо ў плячо ідуць дадому
Яны праз вёску на змярканні,
І гэта радуе, вядома,
Нібыта першае каханне.

## ПЕСНЯРЫ

«Запрагайце, хлопцы, коней!..» —
Зацягнуў я між сяброў.
— Ат, не тое, друг Антоне.
Запрагай мне трактароў!

Страсянуў дзяцюк чупрынай:
— Мне не зручна на кані.
Запрагай мне, друг, машыну,
«Волгу» к ганку падгані!

Коні ролю адыгралі?
Адыгралі! Ведай, брат...
Цыганы ў нас коней кралі?
Кралі! От іх і не шмат.

Адыгралі коні ролю,
Хоць мядзведзь іх задзяры!
Сёння трактары на полі —
Плугары і песняры!..

Я згадзіўся з ім, дарэчы,
Логіка ў яго была:
Трактары ўзялі на плечы
Ношу цяжкую сяла.

Днём, у вечар, у змярканне,
Уначы аруць яны.
Толькі вось адно пытанне:
А пры чым тут цыганы?

Цыганы на цяжкіх фурах
Не вандруюць між палян.
Не таемная фігура
Новы сённяшні цыган.

Ён — у кузні, ён — у полі,
Ён і медзік, і сталяр...
Конскую прынізіў ролю
Трактар — волатны плугар.

Ход імклівае эпохі
Перайначыў нам сяло...
Цыганы... грашылі трохі,
Дык даўно ж яно было.

На цыганскія галовы
Не абрушвай перуны.
Нават сёння ў яве новай —
Трошкі ўсе мы цыганы!

Друг — згаджаецца: — Антоне,
Гэта — так! Я — зразумеў...
«Запрагайце, хлопцы, коней!..» —
На ўвесь голас ён запеў.

## ВОЛЬНЫ ВЕЦЕР

Загалёкаў вольны вецер
Між сырога ельніку:
— Наламлю з бярозы веццяў
На новыя венікі!

Падмяту смугу з выжарын,
З поля камяністага;
Падмяту на небе хмары,
Будзе неба чыстае!

На даліны, на пагоркі,
На сады, сасоннікі —
Ноччу глянуць з неба зоркі,
Раніцою — сонейка.

Туманы змяту над лугам,
Падмяту над рэчкаю.
Чалавеку быў я другам,
Буду другам вечна я.

Я кручу магутнай сілай
Крылы ветраковыя.
Ветракоў тых паваліла
Навальніца новая.

Ветракоў старых шкадую:
Жыта ў іх не мелецца.
З імі дружбы не вяду я;
Іх няма ў аселіцах.

Не відаць высокіх крылаў,
Ветразяў раскручаных.
Неразумнай нейкай сілай
З імі я разлучаны!..

Адгалёкаў вольны вецер
Між сырога ельніку.
Вецер стомлены, пад вечар
Лёг на новых веніках.

# БЕЛАРУСЬ І БЕЛАРУСЫ

М. ЕРМАЛОВІЧ

ВЕЛЬМІ БАГАТЫ другі том БелСЭ на матэрыялы па гісторыі Беларусі, і гэта зразумела: у ім змешчана ўсё, што адносіцца да слоў «Беларусь» і «беларускі». Заадно хочацца адзначыць, што рэдакцыя БелСЭ зрабіла нямала для таго, каб як мага паўней падаць і глыбей раскрыць гісторыю Беларусі. Аднначасова БелСЭ выявіла і тыя пытанні, якія недастаткова яшчэ распрацаваны нашай гістарычнай навукай. Адсюль, відаць, і тыя спрэчныя палажэнні, недакладнасці і прабелы на яе старонках, пра што будзе гаворка ніжэй.

Матэрыялы другога тома закранаюць у той ці іншай ступені ўсе перыяды гісторыі Беларусі — ад самых старажытных часоў да сённяшніх дзён. Звяртаюць на сябе ўвагу сваёй навуковай навізной артыкулы па археалогіі Беларусі («Балты», «Банцараўшчына», «Баркалабава», «Беласарока», «Бердыж», «Бечы», «Бронзавы век», «Брэсцкі бескурганны могільнік», «Ваўкавыск» і інш.). Яны даюць яскравае ўяўленне пра даўнюю заселенасць тэрыторыі Беларусі чалавекам (24—23 тыс. гадоў да н. э.), пра розныя археалагічныя культуры, якія тут змянялі адна адну. Прыемна адзначыць, што амаль усё гэта даследавана ў савецкі час і пераважна нашымі беларускімі вучонымі.

**Значная частка артыкулаў па гісторыі Беларусі X—XIII стагоддзяў прысвечана полацкім князям. Нельга абмінуць артыкулы пра Бельчыцы — рэзідэнцыю полацкіх князёў, і пра берасцяныя граматы — сведчанні пашырэння пісьменнасці ў XI—XV стагоддзях. Грунтоўны артыкул прысвечаны адной з гістарычных абласцей старажытнай Беларусі — Берасцейскай зямлі.**

Многія артыкулы закранаюць паасобныя моманты гісторыі Беларусі XIV—XVIII стагоддзяў. Важнейшыя з іх асвятляюць рэлігійную барацьбу, што разгарнулася на землях Беларусі ў выніку польска-каталіцкай агрэсіі ў другой палове XVI стагоддзя. У артыкуле пра Брэсцкую унію 1596 года зусім правільна сказана што яна была праведзена польскімі феадаламі і каталіцкай царквой з рэакцыйнымі мэтамі, галоўнымі з якіх былі: аслабіць антыфеадальны рух народных мас, акаталічыць і паланізаваць беларускі і ўкраінскі народы. Але варта было б сказаць, што Брэсцкая унія не дасягнула сваёй мэты і фактычна праваліліся. Беларускія сяляне, якія былі гвалтоўна пераведзены ў унію, не страцілі ні сваёй класавай свядомасці, ні мовы, ні нацыянальных звычаяў. Убачыўшы гэта, рэакцыйны ўрад Рэчы Паспалітай стаў праследаваць уніятаў гэтак жа, як і праваслаўных. У артыкуле не даецца ацэнкі факту ліквідацыі царскім урадам уніі ў 1839 годзе. Як вядома, К. Маркс, М. Дабралюбаў, М. Чарнышэўскі, А. Герцэн, М. Агароў, К. Каліноўскі, Ф. Багушэвіч гнеўна асуджалі гвалтоўны перавод царскім урадам у праваслаўе беларускіх сялян-уніятаў, якія, паводле Ф. Энгельса, «даўно ўжо прымірыліся са сваім становішчам» уніятаў. Усё гэта неабходна было б адзначыць.

**Асобныя артыкулы расказваюць аб праваслаўных брацтвах і брацкіх школах, якія адыгрывалі вялікую ролю ў барацьбе з польска-каталіцкай рэакцыяй у XVI — XVIII стагоддзях. У той жа час неабходна было б падкрэсліць класавую сутнасць дзейнасці брацтваў, а менавіта тое, што яны перш за ўсё абаранялі інтарэсы феадалаў і царквы. Не ўсё станоўчае і ў дзейнасці брацкіх школ. Так, у прыватнасці, у іх ігнаравалася жывая беларуская мова і ўзмоцнена культывавалася мёртвая царкоўнаславяншчына, незразумелая народу.**

**Праваднікамі каталіцызму і уніяцтва ў Беларусі былі розныя манашаскія ордэны, у тым ліку бернардзінцы і базыльяне, пра якіх гаворыцца ў асобных артыкулах. Праўда, пра базыльянаў нельга катэгарычна і без агаворак сцвярджаць, што яны служылі мэтам паланізацыі. Як паказваюць навейшыя даследаванні, у базыльянскіх школах, у адрозненне ад езуіцкіх, больш увагі ўдзялялася выкладанню на беларускай мове, што мела пэўнае станоўчае значэнне («Нарысы гісторыі народнай асветы і педагагічнай думкі ў Беларусі», Мінск, 1968, стар. 85).**

Артыкулы «Буйніцкая бітва» (1595 г.) і «Бабруйская абарона» (1649 г.) раскрываюць гераічныя эпізоды антыфеадальнай барацьбы беларускіх сялян і ўкраінскіх казакаў. У асобных артыкулах расказваецца і пра герояў гэтай барацьбы: І. Багдашэвіча — кіраўніка Давыд-Гарадоцкага паўстання 1648—1650 гг. і В. Вашчылу — кіраўніка Крычаўскага паўстання 1743—1744 гг.

**Па ўсёй Беларусі раскіданы шматлікія паселішчы з назвай «Буда». У артыкулах «Буды» і «Буднікі» чытачы знойдуць тлумачэнні назваў гэтых паселішчаў, якія былі заснаваны буднікамі — прыгоннымі сялянамі, што працавалі на лясных промыслах — будах. Артыкулы «Баброўнікі», «Бабылі», «Баяры» знаёмяць нас з паасобнымі групамі беларускіх сялян і шляхты. Нельга не адзначыць грунтоўны артыкул пра валочную памеру — комплекс аграрных мерапрыемстваў, якія праводзіўся ў Беларусі ў інтарэсах феадалаў і дзяржавы з сярэдзіны XVI па сярэдзіну XVII стагоддзя. Валочная памера замацавала трохпольную сістэму земляробства і на многія стагоддзі вызначыла планаванне беларускіх вёсак і сядзіб.**

Усебакова разгледжаны самыя выдатныя беларускія летапісы XVI стагоддзя: «Летапіс Быхаўца» і «Баркалабаўскі летапіс». У артыкуле «Белая Русь» паказана, як тэрмін «Белая Русь», які ў XII—XV стагоддзях адносіўся да Паўночна-Усходняй Русі, паступова стаў замацоўвацца за тэрыторыяй сучаснай Беларусі.

Шмат каштоўных звестак дае другі том па гісторыі Беларусі XIX стагоддзя. Так, з артыкула «Вайсковыя пасяленні» мы даведваемся, што рэакцыйная задума Аракчэева спалучыць салдацкую муштру з катаржнай працай была ўпершыню ажыццёўлена ў Беларусі (Клімавіцкі павет Магілёўскай губерні), дзе ў 1810 годзе ўзнікла першае вайсковае пасяленне.

З Беларуссю была шчыльна звязана дзейнасць такіх выдатных дзекабрыстаў, як М. Бястужаў-Румін і браты Барысавы. На матэрыялах другога тома добра прасочваецца непарыўнасць рэвалюцыйных традыцый нашага народа. Кожнае пакаленне рэвалюцыянераў мела ў сваіх радах беларусаў: дзекабрысты А. Без-Карніловіч і браты Вадкоўскія, кіраўнік сялянскага паўстанцкага атрада ў Слонімскім павеце М. Валовіч, павешаны ў 1833 годзе ў Гродне, мужны рэвалюцыянер Ю. Бакшанскі, які заклікаў у 1847 годзе смаргонскіх сялян да паўстання, паўстанец 1863 года і цэлая плеяда другіх паўстанцаў (А. Белакоз, Ул. Барзабагаты, П. Брант, Я. Ваньковіч і інш.), тры браты-народавольцы Бычковы, бальшавікі-ленінцы Ул. Бонч-Бруевіч і браты Басалыгі.

**Шэраг артыкулаў уваскрашае з забыцця імёны беларускіх этнографаў, краязнаўцаў і гісторыкаў XIX стагоддзя: С. Бекарэвіча, Д. Булгакоўскага, М. Балатоўскага, А. Васільевай, якія сваімі працамі выклікалі цікавасць да роднага краю. Самым выдатным беларускім гісторыкам і краязнаўцам першай паловы XIX стагоддзя быў М. Без-Карніловіч (брат дзекабрыста). Нягледзячы на высокае становішча (генерал), ён не парваў духоўных сувязей са сваёй радзімай і ганарыўся слаўным мінулым беларускага народа. Ён адкінуў сцвярджэнні казённых гісторыкаў аб раздробленасці Полацкай зямлі ў XIII стагоддзі і паказаў яе згуртаванасць, выказаў слушную думку пра паходжанне Вялікіх літоўскіх князёў Віценя і Гедыміна з дынастыі полацкіх князёў. Кнігу Без-Карніловіча пра памятныя месцы Беларусі (1855 г.) высока ацаніў М. Чарнышэўскі.**

Пачатак XX стагоддзя ў Беларусі, як і ва ўсёй Расіі, азнаменаваўся шырокім распаўсюджаннем марксізма. Вынікам гэтага было з'яўленне сацыял-дэмакратычных арганізацый, што знайшло сваё адлюстраванне ў артыкулах пра Ашмянскую, Бабруйскую, Барысаўскую і Брэсцкую арганізацыі РСДРП. Важныя падзеі рэвалюцыі 1905 года раскрыты ў артыкулах пра выступленні салдат і рабочых у Баранавічах, салдат у Брэсце і Бабруйскай крэпасці. Характэрнымі для Беларусі былі «бульбяныя забастоўкі», якія праводзіліся парабкамі і падзёншчыкамі ў 1906 годзе.

У аснову артыкула пра Беларускую сацыялістычную грамаду (БСГ) пакладзена ленінскае вызначэнне яе як дробнабуржуазнай нацыянальнай партыі лёванародніцкага кірунку. У той час, як прадстаўнікі яе правага крыла ўсё больш скатваліся ў балота контррэвалюцыі, лепшыя прадстаўнікі левага крыла (Чарвякоў, Жылуновіч, Дыла і іншыя) парвалі з ёю, уступілі ў камуністычную партыю і прынялі актыўны ўдзел ва ўтварэнні БССР. З артыкула пра газету «Белорусский вестник», якая выдавалася ў Вільні ў 1912—1913 гг., мы даведваемся, што яна была органам так званага «Белорусского общества». Пра гэту рэакцыйную арганізацыю трэба было б сказаць больш падрабязна, паказаць яе мэты, назваць яе арганізатараў.

Станоўчай якасцю многіх артыкулаў БелСЭ з'яўляецца тое, што яны, не маючы непасрэднага дачынення да Беларусі, убіраюць у сябе і беларускі матэрыял. Напрыклад, у артыкуле «Бежанцы» гаворыцца і пра беларускіх бежанцаў. Такіх прыкладаў можна прывесці нямала. На жаль, гэта магчымасць не скарыстана ў артыкуле «Буржуазія», дзе ні слова не сказана пра беларускую буржуазію. А варта, пэўна, было б расказаць, як яна фармавалася, якую яна адыгрывала ролю ў эканамічным і палітычным жыцці краю, якой яна была па сваім характары.

Выключна важнае значэнне мае артыкул «Ваенна-рэвалюцыйны камітэт Заходняга фронту», бо ў ім паказана, як падрыхтоўвалася і праходзіла сацыялістычная рэвалюцыя ў Беларусі і на Заходнім фронце. Вельмі каштоўныя артыкулы «Беларуская сацыял-дэмакратычная рабочая партыя», «Беларускія секцыі РКП(б)» і «Беларускі нацыянальны камісарыят». У іх дэталізуецца працэс утварэння Камуністычнай партыі Беларусі і абвяшчэння БССР.

Памятаю, як, будучы выкладчыкам беларускай літаратуры, я заўсёды адчуваў сябе няёмка, калі гаварыў пра верш Я. Купалы «На смерць Сцяпана Булата», бо нічога не мог сказаць пра чалавека, якому гэты верш прысвечаны. Ніякіх звестак пра яго нідзе нельга было знайсці. Цяпер імя Сцяпана Булата, як і імёны другіх выдатных рэвалюцыйных і дзяржаўных дзеячоў Беларусі (М. Баброва (Броніна), С. Багам'я, А. Бурбіс, Д. Валковіч, І. Васілевіч і іншыя), будуць вядомы народу. Стане вядомым і імя беларускага настаўніка І. Біча, героя грамадзянскай вайны ў Сібіры, які мужна загінуў у барацьбе з калчакаўцамі.

Беларускія чытачы з цікавасцю даведаюцца, што Генеральны сакратар ЦК КПСС Л. І. Брэжнеў пасля заканчэння ў 1927 годзе Курскага землеўпарадкавальна - меліярацыйнага тэхнікума працаваў некаторы час землеўпарадчыкам ў Кохапаўскім раёне Аршанскай акругі.

Шырокі паказ у другім томе атрымала рэвалюцыйная барацьба працоўных Заходняй Беларусі ў час белапольскай акупацыі 1920—1939 гг. Мы даведваемся пра Беларускую рэвалюцыйную арганізацыю (БРА), што існавала ў 1922—1923 гг. і была адной з тых груп, з якіх склалася Камуністычная партыя Заходняй Беларусі. Артыкулы «Беларускі пасольскі клуб» і «Беларуская сялянска-рабочая грамада» (БСРГ) даюць грунтоўнае знаёмства з гісторыяй утварэння і дзейнасці адной з самых масавых рэвалюцыйных арганізацый, якой была Беларуская сялянска-рабочая грамада. Асобныя артыкулы расказваюць пра выдатных дзеячоў камуністычнага і нацыянальна-вызваленчага руху Заходняй Беларусі — Я. Бабровіча, П. Валошына, М. Бурсевіча, Ф. Валынца, С. Багданчука.

Найбольш багатымі ў другім томе, бясспрэчна, з'яўляюцца матэрыялы аб Вялікай Айчыннай вайне — самым гераічным перыядзе ў гісторыі Беларусі. У артыкуле пра Беларускі штаб партызанскага руху, Баранавіцкі і Брэсцкі падпольныя абкомы КП(б)Б, антыфашысцкія камітэты, паасобныя партызанскія злучэнні і атрады, падпольныя арганізацыі і групы паказана ўсенародная партызанская барацьба, якая разгарнулася ў Беларусі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. Артыкулы пра Беларускую аперацыю і Беларускія франты раскрываюць велічную эпапею вызвалення Беларусі доблеснай Савецкай Арміяй сумесна з партызанамі ў 1944 годзе. Добра, што на старонках БелСЭ ёсць шматлікія артыкулы пра Герояў Савецкага Саюза, якія вызначыліся ў барацьбе за свабоду Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

У заключэнне спынімся на артыкуле «Беларусы», які ахоплівае ўсе этапы гістарычнага шляху беларускага народа. Нельга не адзначыць многія станоўчыя якасці гэтага артыкула. У ім добра раскрыта шматвекавая гераічная барацьба беларускага народа за сваё сацыяльнае і нацыянальнае разняволенне, паказаны тыя грандыёзныя змены, якія адбыліся ў беларускім краі ў савецкі час, прыведзена шмат цікавых статыстычных звестак. Але ў артыкуле ёсць і істотныя недахопы. У некаторых месцах у ім навуковы аналіз падменен апісальніцтвам. Так, у раздзеле «Культура» па сутнасці няма характарыстыкі беларускай культуры, ён цалкам запоўнены пералічэннем народных танцаў, промыслаў, прозвішчамі пісьменнікаў, артыстаў, кампазітараў, вучоных і грамадскіх дзеячоў...

Дасведчанага чытача насцярожвае тое, што асобныя палажэнні артыкула некрытычна запазычаны са старой гісторыяграфіі і не могуць быць прыняты сучаснай навукай. Перш за ўсё аб пытанні ўтварэння беларускай народнасці. У артыкуле сцвярджаецца, што фармаванне яе праходзіла ў XIV—XVI стагоддзях, бо «ў выніку абасаблення ад астатніх зямель старажытна-рускай дзяржавы ў насельніцтва заходнерускіх зямель пачалі ўзмацняцца ўласцівыя яму асаблівасці мовы, культуры, звычаяў». Негрунтоўнасць гэтага аргументу пацвярджаецца тым, што ён не дае адказу на пытанне: «Чаму ўтварыліся асобныя беларуская і ўкраінская народнасці?» Беларускія ж і ўкраінскія землі паміж сабой ў гэты час палітычна не абасабляліся, яны знаходзіліся ў межах адной дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага. Сапраўды, палітычная абасобленасць не з'яўляецца абавязковай умовай утварэння народнасці. Уся справа ў тым, што фармаванне беларускай народнасці, як і велікарускай і ўкраінскай, пачалося значна раней XIV стагоддзя. Ленін гаварыў, што «прычыну згуртавання нацыянальных абласцей трэба шукаць у эканоміцы» («Ленинский сборник», т. XXX, стар. 61—62). Савецкія гісторыкі М. В. Нечкіна («Вопросы истории», 1958, № 7, стар. 91) і Б. Д. Грэкаў («Киевская Русь», М., 1949, стар. 499—500) паказалі, што яшчэ ў часы Кіеўскай Русі (гэта і было галоўнай прычынай распаду яе) сталі фармавацца самастойныя эканамічныя вобласці, кожная з якіх стала праводзіць сваю ўласную палітыку, маючы на ўвазе ўласныя мэты. Вось гэтыя паасобныя вобласці і сталі ядром утварэння на агульнарускай аснове ўсходнеславянскіх народнасцей яшчэ задоўга да татара-мангольскага нашэсця і ўтварэння Вялікага княства Літоўскага.

**З артыкула «Беларусы» вынікае, што толькі пасля ўтварэння Вялікага княства Літоўскага, у XIV —XVI стагоддзях, ішло расшырэнне эканамічных і культурных сувязей паміж насельніцтвам заходніх (г. зн. беларускіх, — М. Е.) зямель былой Кіеўскай Русі. Але ўсё адбывалася наадварот. Менавіта ўтварэнне Вялікага княства Літоўскага ў сярэдзіне XIII стагоддзя было вынікам эканамічнага і культурнага збліжэння заходнеславянскіх земляў, якое пачалося, як сведчаць летапісы, археалогія і іншыя крыніцы, у другой палове XII стагоддзя.**

**Не толькі літоўская знаць засвойвала беларускую мову і прымала праваслаўе, як гэта гаворыцца ў артыкуле «Беларусы». На ўсім працягу гісторыі Вялікага княства Літоўскага і пазней беларусы асімілёўвалі ўсе слаі літоўскага насельніцтва і асабліва сялянства.**

**Такім чынам, развіццё беларускага народа суправаджалася яго прасоўваннем на захад і паўночны захад, што ўвесь час павялічвала яго насельніцтва і пашырала яго тэрыторыю. Далейшае пранікненне беларускай «каланізацыі» ў глыб тэрыторыі Літвы і было адной з прычын перанясення ў пачатку XIV стагоддзя сталіцы з Навагрудка ў Вільню, якая была заснавана крывічамі і таму доўгі час называлася Крывічградам ці Крывым Горадам (Голубович В., Голубович Е., «Кривой город — Вильнюс» ў часопісе «Краткие известия института истории материальной культуры», в. 11, 1945, стар. 114—125).**

У артыкуле не адзначана, што царызм сумысля трымаў беларусаў у стане сярэдневяковай «мужыцкай» нацыі, тармазіў прамысловае развіццё Беларусі. Таму ў ёй, у параўнанні з другімі, больш развітымі індустрыяльнымі раёнамі Расіі, гарадскі беларускі пралетарыят быў нешматлікі. Але гэта нікольні не азначае, што ў асяроддзі беларусаў не было поля дзейнасці для пралетарскай партыі. Ленін у свой час выкрыў такія вульгарызатарскія погляды: «Толькі сумнай памяці «эканамісты» думалі, што «лозунгі рабочай партыі» выстаўляюцца **толькі** для рабочых. Не, гэтыя лозунгі выстаўляюцца для ўсяго працоўнага насельніцтва, для ўсяго народа».

Варта было б падкрэсліць у артыкуле, што ператварэнне беларускай нацыі ў сацыялістычную было аднначасова і завяршэннем фармавання беларускай нацыі, бо ў перадкастрычніцкі час ва ўмовах адсутнасці дзяржаўнасці беларуская нацыя не магла складціся. Сацыялістычны шлях, па якім пайшоў беларускі народ, быў і адзіным шляхам яго поўнага нацыянальнага адраджэння.

Трэба спадзявацца, што да пытання гісторыі ўтварэння і развіцця беларускай нацыі БелСЭ яшчэ звернецца, асабліва калі ўзяць пад увагу, што яе заключны том будзе поўнасцю прысвечаны Беларусі.

# ЛІТАРАТУРА— ШКОЛА ВЫХАВАННЯ

## СУСТРЭЧА САВЕЦКІХ І БАЛГАРСКІХ ДЗІЦЯЧЫХ ПІСЬМЕННІКАЎ У МІНСКУ

Згодна з пагадненнем паміж Саюзамі пісьменнікаў СССР і Балгарыі 20 мая гэтага года ў Мінску адбылася сустрэча савецкіх і балгарскіх літаратараў, якія працуюць у галіне дзіцячай літаратуры. У сустрэчы, аб якой паведамлялася ўжо чытачам газеты «Літаратура і мастацтва», прынялі ўдзел балгарскія літаратары — паэты Асен Босеў, Нікалай Зідараў і Георгій Струмскі, белетрыст Пётр Дзімітроў-Рудар і крытык Нікалай Янкаў, масквічы — паэты Ірына Такмакова і Юрый Карынец, крытык Валянціна Бавіна, перакладчыкі Віктар Барысаў і Марыя Тарасава, а таксама вялікая група беларускіх паэтаў і празаікаў— Эдзі Агняцвет, Янка Брыль, Хаім Мальцінскі, Алесь Савіцкі, Алесь Пальчэўскі, Ядзвіга Бяганская, Галіна Васілеўская, Аркадзь Марціновіч, Віктар Дайліда, Еўдакія Лось, Павел Ткачоў, Анатоль Грачанікаў, Авяр'ян Дзеружынскі, Васіль Зуёнак, Алесь Махнач, Мікола Ткачоў, Ніл Гілевіч, Іван Навуменка, Пятро Рунец, Васіль Хомчанка, Вячаслаў Марозаў і іншыя. Сустрэча была прысвечана грамадзянскай і ваенна-патрыятычнай тэме ў дзіцячай літаратуры.

Творчы сімпозіум літаратараў дзвюх братніх краін адкрыў першы намеснік старшыні праўлення СП Беларусі Іван Шамякін. Правядзенне такой сустрэчы ў Мінску, гаворыць ён, азначае не толькі прызнанне поспехаў нашай літаратуры для дзяцей. Выбар гэты зроблены, нам думаецца, і з павагі да вялікага ратнага подзвігу беларускага народа, партызанскага подзвігу, які дае нашай літаратуры, у тым ліку і дзіцячай, невычэрпную колькасць тэм і вобразаў. Мы, савецкія пісьменнікі, як і пісьменнікі братняй Балгарыі, маем шырокую магчымасць для стварэння твораў на ваенна-патрыятычную тэму. Гэтую магчымасць дае нам гісторыя нашых народаў, іх гераізм у далёкім і блізкім мінулым, у прыватнасці, у гады барацьбы з гітлераўскім фашызмам. Усё гэта дае багаты матэрыял для стварэння высокамастацкіх, па-сапраўднаму партыйных твораў, якія б служылі справе грамадзянскага, ваенна-патрыятычнага выхавання нашых дзяцей, нашай моладзі.

Аб тым, як распрацоўваецца гэта тэма ў савецкай і балгарскай літаратурах для дзяцей, што зроблена літаратарамі братніх краін у гэтым кірунку, якія праблемы і задачы ставіць перад дзіцячай літаратурай наш час, і ішла гаворка ў часе сустрэчы, ўзаемны абмен думкамі і творчым вопытам.

Усе таварышы, якія прынялі ўдзел у гаворцы, падкрэслівалі важнасць і надзённасць грамадзянскай і ваенна-патрыятычнай тэмы ў дзіцячай літаратуры. Аб тым, што гэтая тэма—галоўная ў беларускай літаратуры для дзяцей, гаварыў Васіль Хомчанка. І гэта невыпадкова, зазначыў прамоўца. Ва ўсенароднай барацьбе з фашызмам на тэрыторыі Беларусі прымалі ўдзел і дзеці. Разам з дарослымі яны паміралі ў рвах, у газавых камерах, у хатынскіх вогнішчах. Амаль кожны наш пісьменнік—ці то вачыма непасрэднага ўдзельніка ўзброенай барацьбы, ці то вачыма дзіцяці — бачыў жахі вайны, бачыў гераізм простых савецкіх людзей. Малюнкі вайны запалі ў ягоную душу і сэрца, зноў і зноў паўстаюць у памяці і просяцца на паперу. Таму, падкрэслівае В. Хомчанка, ваенна-патрыятычная тэма для беларускай дзіцячай літаратуры сапраўды вечная тэма.

Выступленне П. Дзімітрова-Рудара пераклікалася з выступленнем В. Хомчанкі. Наша дзіцячая літаратура, гаварыў балгарскі госць, нарадзілася ў сярэдзіне мінулага стагоддзя, калі Балгарыя была яшчэ пад турэцкім ігам, нарадзілася ва ўмовах уздыму нацыянальна-вызваленчай барацьбы. На працягу ўсяго свайго існавання яна была цесна звязана з жыццём і барацьбой нашага народа, мела глыбока патрыятычны характар. У гады рабства яна распальвала ў сэрцах маладых чытачоў нянавісць да рабаўнікоў і гвалтаўнікоў, яна апявала гераізм барацьбітоў за свабоду і незалежнасць радзімы, яна была выказніцай веры нашага народа ў моц братняга рускага народа, у яго вызваленчую місію. У гады народнай улады балгарская дзіцячая літаратура працягвае развіваць гэтыя свае слаўныя традыцыі. Асноўная яе задача—выхаванне сацыялістычнага гуманізму, патрыятызму і пралетарскага інтэрнацыяналізму. Яна з'яўляецца надзейным памочнікам камуністычнай партыі ў барацьбе за камуністычнае выхаванне маладога пакалення.

— Ва ўмовах, калі ідэалагічная барацьба ў свеце надзвычай абвастрылася,—гаварыў далей П. Дзімітроў-Рудар,—літаратура для маладога пакалення набывае выключна важнае значэнне. Мы лічым, што гэта абавязвае нас не прытупляць, а, наадварот, абвастраць рэвалюцыйны пачатак у творах для дзяцей, павышаць іх мастацкую вартасць, узмацняць іх грамадзянска-выхаваўчую ролю. У пастаноўцы і канкрэтным вырашэнні гэтай першачарговай задачы могуць узнікнуць пытанні тэарэтычнага і практычнага значэння. Няма ніякага сумнення, што чым лепш будуць аб'яднаны намаганні работнікаў сацыялістычных краін у галіне дзіцячай літаратуры, тым лепш будуць распрацаваны і ажыццёўлены пытанні, звязаныя з яе галоўнай задачай — рэвалюцыйна-камуністычным выхаваннем дзяцей.

У сувязі з гэтым П. Дзімітроў-Рудар выказаў пажаданне стварыць таварыства дзіцячых пісьменнікаў сацыялістычных краін і агульны альманах альбо часопіс «Сацыялістычная дзіцячая літаратура», які б выходзіў па чарзе ў розных краінах і спрыяў бы каардынацыі творчых намаганняў пісьменнікаў, развіццю літаратурна-крытычнай і тэарэтычнай думкі ў галіне літаратуры для дзяцей.

Гэтыя прапановы балгарскага пісьменніка былі падтрыманы ўсімі ўдзельнікамі сустрэчы.

Прапанова адносна таварыства дзіцячых пісьменнікаў сацыялістычных краін вельмі каштоўная, важная і патрэбная, гаварыла, у прыватнасці, В. Бавіна. У якой форме будзе ажыццяўляцца наша супрацоўніцтва — не так істотна. Істотна тое, што мы павінны аб'яднаць свае намаганні, каб спрыяць выхаванню нашых дзяцей патрыётамі і інтэрнацыяналістамі.

Працягваючы гэтую сваю думку, В. Бавіна заўважае, што выхаванне грамадзянскіх пачуццяў, выхаванне патрыятызму — гэта больш шырокае паняцце, чым ваенна-патрыятычнае выхаванне. Некаторыя крытыкі, гаворыць яна ў сувязі з гэтым, стараючыся вытлумачыць тую ці іншую з'яву ў сучаснай літаратуры для дзяцей, лічаць, што галоўнае пытанне дзіцячай літаратуры сёння—пытанне аб праўдзе. Пытанне аб праўдзе—галоўнае пытанне мастацтва ўвогуле. Але яно не толькі галоўнае, але яшчэ і класавае. Да таго часу, пакуль свет будзе падзелены на варожыя лагеры, існуюць і будуць існаваць дзве праўды. Амерыканскія коміксы, якія ўнушаюць маленькаму чалавеку, што чалавек чалавеку воўк, што ў свеце перамагае сіла і нахабства, што жыццё ўладкавана па прынцыпе «адзін супраць усіх і ўсе супраць аднаго» — гэта таксама праўда, але праўда, несумяшчальная з нашай мараллю. Выхаванне ў маладым пакаленні такой маралі таксама «грамадзянскае» выхаванне, менавіта такія «грамадзяне» будуць пасля забіваць і рабаваць у В'етнаме, Лаосе, Камбоджы, на акупіраваных арабскіх тэрыторыях.

Закранае В. Бавіна і праблему героя нашай дзіцячай літаратуры, адзначаючы, што адсутнасць сучасных Карчагіных і Цімураў тлумачыцца перш за ўсё недастатковай творчай і грамадзянскай актыўнасцю саміх пісьменнікаў.

— Усе мы адзінадушна лічым,—гаварыў Нікалай Янкаў,—што тэма патрыятызму з'яўляецца асноўнай тэмай нашых дзіцячых літаратур. У нашай балгарскай літаратуры яна распрацоўваецца ў некалькіх кірунках. Аднак асноўнае ў нашай літаратуры для дзяцей—гэта кнігі, прысвечаныя барацьбе супраць фашызму, а таксама кнігі пра нашу армію, пагранічнікаў, кнігі аб любві да радзімы, да яе прыроды, гісторыі, да культуры і мастацтва народа.

Расказаўшы прысутным аб балгарскай дзіцячай паэзіі і прозе, аб вялікай увазе і падтрымцы літаратуры для дзяцей з боку партыі і ўрада рэспублікі, Н. Янкаў гаворыць аб класава-партыйным падыходзе да літаратуры. Звычайна, зазначае ён, аб класава-партыйным падыходзе ідзе гаворка тады, калі гаворыцца аб ацэнцы літаратуры крытыкай. Але ж павінен быць і класава-партыйны падыход літаратуры да жыццёвых фактаў. Гэта б папярэдзіла нашы многія памылкі і пралікі і дапамагло б нам быць больш наступальнымі і прынцыповымі ў адказнай справе выхавання маладога пакалення. Н. Янкаў гаворыць таксама аб той шкодзе, якую прыносіць дзіцячай літаратуры так званы абстрактны гуманізм і знешне саладжавая, дэкларацыйная распрацоўка тэмы патрыятычнага выхавання.

Янка Брыль гаварыў аб вялікай радасці і аб вялікай адказнасці літаратара, які працуе ў галіне дзіцячай літаратуры. Падтрымаўшы думку В. Бавінай аб тым, што выхаванне савецкага патрыёта—гэта выхаванне менавіта савецкага патрыёта-інтэрнацыяналіста, чалавека нашай сацыялістычнай маралі, ён адзначыў:

— Выхаваць грамадзяніна не проста. Грамадзянскае выхаванне павінна пачынацца з кніжак «Расфарбуй сам», з «Вясёлых карцінак», з першых твораў для дзяцей. Не памятаю, каму належаць словы пра тое, што як нельга даць карове саломы і пераканаць яе, што гэта сена, так нельга выдаць нелітаратуру за літаратуру. Літаратура для дзяцей павінна быць таленавітай, яна павінна несці ў сабе тую таемную сілу, якую тэарэтыкі і практыкі часам не могуць зразумець па-сапраўднаму.

Далей Я. Брыль гаварыў, звяртаючыся да балгарскіх гасцей, аб тым, што мы пакуль кепска ведаем адзін аднаго, мала перакладаем з нашых літаратур. У прыватнасці, ён сказаў, што малым балгарскім чытачам было б карысна пазнаёміцца з творчасцю такога самабытнага нашага паэта, як Васіль Вітка, а таксама з кнігамі таленавітага дзіцячага празаіка Івана Сяркова.

Аб гісторыі нараджэння і развіцця балгарскай дзіцячай літаратуры гаварыў у часе сустрэчы Асен Босеў. Ён адзначыў, што амаль усе вядучыя балгарскія пісьменнікі лічаць сваім абавязкам пісаць для дзяцей, расказаў аб балгарскай дзіцячай перыёдыцы.

Падзяліўшыся сваімі ўспамінамі аб паездцы ў Балгарыю, аб сустрэчах з балгарскімі школьнікамі, Эдзі Агняцвет гаварыла далей аб традыцыях нашай дзіцячай літаратуры, на пачатку якой стаялі Купала і Колас, пазнаёміла балгарскіх гасцей з лепшымі здабыткамі беларускай паэзіі.

На праблемах і задачах літаратуры для самых маленькіх запыніла ўвагу ўдзельнікаў сустрэчы Ірына Такмакова, падкрэсліўшы, што патрыятычнаму выхаванню дзяцей спрыяюць не толькі кнігі на ваенна-патрыятычную тэму, а ўсе кнігі, напісаныя з любоўю да роднай зямлі і роднага народа, да яго гісторыі, мовы, мастацтва і культуры.

Пра агульнасць і адзінства праблем, якія стаяць перад сацыялістычнымі дзіцячымі літаратурамі, гаварыў Нікалай Зідараў.

— Я хацеў бы,—сказаў ён,—выказаць удзячнасць усім таварышам, якія арганізавалі і прынялі ўдзел у гэтай нашай сустрэчы. Ужо адно тое, што мы сустрэліся, што мы зацікавіліся адзін адным, што пасля гэтага мы прачытаем вашы кнігі, а вы— нашы, сведчыць пра тое, што паміж намі пракладзены мост. І каб гэты мост быў трывалы і надзейны, нашы кнігі трэба ўзаемна перакладаць, для чаго мы павінны мець як мага больш узаемных літаратурных паслоў-перакладчыкаў.

Юрый Карынец гаварыў аб голым дыдактызме, які псуе многія творы для дзяцей, аб вузкасці тэматыкі нашай дзіцячай літаратуры, аб заганах кніг, прысвечаных так званым «сямейным канфліктам».

Які ён, сённяшні малады чытач? Якія яго інтарэсы і запатрабаванні? Пра гэта гаварыў Георгій Струмскі, зазначаючы, што дзіцячыя пісьменнікі не заўсёды ўлічваюць тыя змены, якія адбыліся ў духоўным развіцці дзяцей за апошнія гады, і таму не знаходзяць часам адпаведнага тону ў гутарцы з імі. У заключэнне балгарскі паэт сказаў:

— Мы павінны ў сваіх кнігах імкнуцца да таго, каб стварыць у душы нашага маладога чытача багаты запас праўды і прыгажосці.

У гаворцы прынялі ўдзел таксама Пятро Рунец, які расказаў аб стварэнні калектыўнай кнігі беларускіх дзяцей «Ніколі не забудзем»; Галіна Васілеўская, якая гаварыла пра абавязак нашых пісьменнікаў перад памяццю герояў барацьбы з фашызмам і памяццю ахвяр нацызму; Мікалай Аляксееў, які падзяліўся сваімі думкамі аб выхаванні ў нашай моладзі стойкасці, мужнасці, ідэйнай перакананасці.

Працэс фармавання асобы складаны і супярэчлівы. Пачынаецца ён з моманту ўсведамлення малым чалавекам сваіх сувязей са светам і заканчваецца разуменнем сацыяльных законаў жыцця і асабістага грамадзянскага ўдзелу ў сацыяльнай барацьбе. Памагчы малому чалавеку з першых крокаў жыцця разумець і ўспрымаць інтарэсы грамадства як свае ўласныя, у меру сваіх сіл і магчымасцей быць барацьбітом за «жизнь совсем хорошую» для ўсіх— задача сацыялістычнай дзіцячай літаратуры. Гэтая думка гучала ў выступленнях кожнага ўдзельніка сустрэчы.

Балгарскія і савецкія дзіцячыя пісьменнікі адзінагалосна пагадзіліся, што іх першая сустрэча была цікавая і карысная, і выказалі пажаданне, каб такія сустрэчы сталі традыцыйнымі і рэгулярныя. Усё гэта прынясе несумненную карысць братнім літаратурам у выкананні іх галоўнай задачы—годна служыць пачэснай справе камуністычнага выхавання дзяцей і падлеткаў.

## ГОСЦІ МІНСКА



Днямі госцем мінчан быў вядомы канадскі спявак Луіс Кіліка, які выканаў партыю Аманасра ў спектаклі Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР «Аіда». На здымку — сцэна з оперы. У ролі Аіды — Г. Лебедзева, Аманасра — Л. Кіліка.

Фота Ул. КРУКА.

## НОВЫ НАРОДНЫ

**За высокае выканаўчае майстэрства і актыўны ўдзел у культурным абслугоўванні насельніцтва калегія Міністэрства культуры БССР прысвоіла званне НАРОДНАГА ансамблю танца Віцебскага гарадскога Дома культуры.**

□

Ансамбль створаны ў 1954 годзе. За семнаццаць гадоў сваёй работы ён даў звыш чатырохсот канцэртаў — у калгасах і саўгасах, на прадпрыемствах і ва ўстановах, па тэлебачанні, у воінаў Савецкай Арміі. Канцэртная дзейнасць калектыву адзначана дыпломамі, граматамі аргкамітэтаў па правядзенні аглядаў і конкурсаў. На аглядзе-конкурсе, прысвечаным стагоддзю з дня нараджэння У. І. Леніна, калектыў адзначаны дыпломам І ступені абласнога аргкамітэта. У рэпертуары ансамбля беларускія народныя танцы і харэаграфічныя кампазіцыі «Крыжачок», «Беларускія хлопцы», «Беларуская лірычная полька», «Беларусь мая сінявокая», «У імя жыцця», рускі танец «Вячорка», карагод «Улитушка», кубінскі танец «Галубка» і іншыя.

У калектыве сістэматычна праводзіцца вучэбна-выхаваўчая работа, абмяркоўваецца творчасць саміх удзельнікаў ансамбля, працуе падрыхтоўчая група. На грамадскіх пачатках удзельнікі ансамбля аказваюць дапамогу школьным і сельскім калектывам мастацкай самадзейнасці.

З 1964 года мастацкім кіраўніком ансамбля з'яўляецца Л. Барадулька, у мінулым артыст балета Беларускага Дзяржаўнага ансамбля танца.

Іван СТАДОЛЬНІК




Яшчэ не гналі ў поле, а Сцяпан ужо не спаў. Варочаўся, стагнаў, кашляў.

— Ці не захварэў ты? — запыталася жонка, глянуўшы з-за занавескі.

— Якое там захварэў — сон прапаў.

— То, можа, карову ў поле пагоніш?

— Ат, гані ўжо сама, нешта ўставаць не хочацца.

Сцяпан чуў, як тонка звякнула вочапка аб вядзерца, шаснула з шаста цадзілка, зацурбоціла ў бляшанку малако, затым зашумела, як лівень. Калі пратупала ў сенцах Ганна, зноў стала ціха, але толькі на нейкі момант. З вуліцы ўжо даносіліся галасы кабет, мыканне кароў.

— Сё, куды, не нажэрэшся ніяк! — як ля самага вуха прагрымеў за акном сонны мужчынскі голас. Нешта засцёбала па плоце,— пэўна, карова скубанула вяргіню, потым затупацела. У канцы вёскі — відаць, ля канторы — гула машына, суха лескатаў пускач трактара.



Івану Стадольніку — трыццаць гадоў. Ён — адказны сакратар полацкай раённай газеты «Сцяг камунізма». Сёлета заканчвае факультэт журналістыкі БДУ імя У. І. Леніна. Выступаў у друку з вершамі. «Улазіны» — яго першае апавяданне.

Счакаўшы, пакуль прагоняць кароў, Сцяпан выйшаў з-за перагародкі. Апранаўся паволі, некалькі разоў то абуваў, тоззуваў правы бот: нешта мулялаануча. Дзень задаваўся добры, сонечны. Схадзіўшы да калонкі па ваду, Сцяпан адно вядро пакінуў у сенцах, другое паставіў на ўслон каля печы. Выпіўшы кубак сырадою, які Ганна пакінула яму, Сцяпан колькі часу тынкаўся з кутка ў куток, як бы чаго шукаючы.

Спачатку дастаў з паліцы тапор, потым брусок. Доўга масціўся на ўслончыку, і толькі тады ўжо, уціснуўшы між ног тапарышча, паволі, як бы гладзячы, пачаў вадзіць бруском па лязе.

— Ці не ў лес сабраўся зранку? — адчыняючы дзверы, здзівілася Ганна.

— Які табе лес! Хату разбіраць буду.

— Хату?.. Дык чаму ж ты нічога загадзя не сказаў? У мяне ж квактуха там, і яшчэ сёе-тое...

— То спарадкуй усё, пакуль я... Каб не замінала потым.

— А ў печы ж паліць пара, — памкнуўшыся было ісці, ужо з дзвярэй вярнулася Ганна.

— Свінням ахрап'я дай, а сабе яйка і на прыпечку спячэш, а то ў хаце і так хоць хвашчыся...

Пісклява, нібы камар ля вуха, пазвоньвае тапор. Час ад часу Сцяпан выцірае лязо анучкай, скрабе пазногцем, плюе на брусок і водзіць, водзіць кругам. Гледзячы на ўсё гэта, можна было падумаць, што Сцяпан наважыў сякерай галіцца, а не бурыць хату.

Тры гады, як жыве Сцяпан у новай хаце, а старую ніяк не сабраўся раскідаць. Так і стаіць яна, уціснуўшыся ў агарод, у трох кроках ад новага зруба, сцюцюрыўшыся, верхам саламянай страхі ледзь дастаючы шыфернага застрэшша. Калгаснае начальства часта напамінала Сцяпану, што хата псуе выгляд усёй вёскі, ды і па сяле злыя языкі пусцілі послух, быццам ён туліцца ў гэтай будцы, калі пасварыцца з Ганнай. Але да Сцяпана прыставала ўсё гэта, як да сцяны гарох.

— Хай стаіць, — думаў ён. — Пад страхой не так гніць будзе. Можа на што згодзіцца яшчэ. Ды й навошта, каб месца пуставала: хлеў ёсць, пуўнька. Гарод добры. А над хацішчам трэба панацець вунь колькі, каб што вырасла, а ўжо сіла не тая.

Але ўчора ўсё перавярнулася ў душы Сцяпана. Прагнаўшы ў поле карову, ён нечага затрымаўся на панадворку. Па вуліцы якраз ехаў трактар, што асушае Вялікі Луг. Калі аграмадзінатрактар параўняўся з варотамі, Сцяпан убачыў, як захісталася, задрыжала яго хата. Нейкае здранцвенне найшло тады на Сцяпана. І ён доўга глядзеў на забітае накрыж аполкамі акно. Вецер гайдаў ля варот маладую рабінку. І ў шкельцах паміж аполкамі бегалі чырвоныя, як воўчыя вочы, сонечныя зайчыкі.

Сцяпан стаяў аслупянелы і думаў толькі аб адным: хаця б не завалілася... Ён баяўся паварушыцца, стаяў напяты, як струна. Яму здавалася, што хата прывязана нейкай нябачнай вяроўкай да яго, і аступіся ён крыху ўбок, папусці гэту вяроўку, зварухніся, і... рухне хата. Усё бачыў Сцяпан на сваім вяку: як падалі скошаныя кулямі людзі, як гарэлі хаты, а вось каб яны самі валіліся — гэта як жа?..

Грукат трактара паступова глухнуў, хата перастала дрыжаць, але Сцяпан не кратаўся з месца. «Ух ты, божа, — думаў ён, — гэтак можа і скаціну прыдушыць. Трэба рашаць». На суседскай ліпе на ўсё горла каркнула варона, ажно Сцяпан падскочыў. «Каб табе зарвала!» — ледзь не крыкнуў ён і, не заходзячы дамоў, выправіўся ў кантору.

— Што, дзядзька Сцяпан, за бульдозерам прыйшоў? — вітаючыся, усміхнуўся старшыня.

— Не, прыйшоў сказаць, што заўтра на стог падаваць не пайду, каля дому трэба.

— А што, брыгадзір табе нічога не казаў? Табе, дзядзька Сцяпан, замену прыдбалі, — і старшыня паказаў рукой у акно на блакітнага «Беларуса» з вялікімі жалезнымі віламі. Сцяпан змоўчаў, і, уцяўшы галаву ў плечы, быццам яму збіраліся стукнуць па шыі, ціха выйшаў.

Навастрыўшы тапор, Сцяпан спахапіўся, што рабіў пустую работу. Абтросшы са штаноў пыл, ён асцярожна паклаў тапор на ранейшае месца, а з-пад лавы выцягнуў калун, якім заўсёды шчапаў дровы. «Вось гэта ўручча, — падумаў Сцяпан, — і тапарышча чачоткавае, можна будзе смела падважваць». Хацеў было выходзіць, як нешта ўспомніў і паклікаў у акно Ганну:

— Дзе гэта ніткі сучаныя ў цябе?

— На грубцы ў новай хаце, — гукнула з панадворка Ганна.

Новай хатай у вёсцы звалі тую палавіну, што стаяла ад вуліцы, а трысцен — старой. У новай хаце Сцяпан з Ганнай амаль не жылі, хапала трысцена. Толькі зімой разы два ў тыдзень тапілі грубку, каб не завялася сырасць.

Калі цяпер Сцяпан адчыніў дзверы, з новай хаты дыхнула прахалодай і нейкім не хатнім пахам. Ад парога да стала, на якім стаяў пакрыты вышыванай сурвэткай тэлевізар «Рэкорд», быў засланы зялёны ходнік з чырвонымі пасамі па баках. Да сцяны туліўся жалезны ложак, які заслала нявестка яшчэ летась, калі сын прыязджаў. Усе чатыры акны былі занавешаны цюлем. У адным, што ад панадворка, дзумкала вялікая муха, назойліва барабанячы ў шыбіну. Ці ад таго, што сцены былі выклеены блакітнымі шпалерамі, а падшытая столь пафарбавана ў белы колер, ці то ад таго, што ў вокнах было зашмат сонца, хата падалася Сцяпану бясконца вялікай. «І навошта было кішкі рваць, — падумаў ён. — Спадзяваўся, што сын прыедзе з горада, — памагаў жа будавацца грашыма, а выйшла, што для паганай мухі стараўся». А муха барабаніла ў шыбіну, дзумкала, нібы заходзілася звонкім смехам.

— Я табе набарабаню, нечысць! — ледзь не закрычаў на ўсю хату Сцяпан і, высока падымаючы ногі, каб не наслядзіць, падыбаў да акна, шапкай забіў муху і выкінуў праз фортку.

Узяўшы з грубкі клубок, ён азірнуўся на хату: на маляванай падлозе блішчалі чырвоныя пяхтовіны, быццам на ёй была расплёскана кроў. Гэта ботамі Сцяпан сабраў пыл. «А я баяўся наслядзіць», — падумаў Сцяпан, глянуўшы на свае не вельмі чыстыя боты.

Ганна, пэўна, ужо ўправілася ў хаце, бо было чуваць, як склікала на панадворку курэй.

— Як там, усё спарадкавала? — запытаўся ў яе Сцяпан.

— А няго ж. Толькі ты, Сцяпанка, асцярожны будзь.

— Не маленькі, ведаю, — адказаў Сцяпан, як бы нечага злуючы.

---

# ТАКІЯ Ў ІХ БУДНІ

## ДОМ КУЛЬТУРЫ Ў ЛОЕВЕ: ВЫРАШАНАЕ І НЯВЫРАШАНАЕ

Здаецца, тут кожны падлетак носіць цяльняшку, і кожны мужчына, які паважае сябе, мае маторную лодку.

Тут сыходзяцца Дняпро і Сож. Прама ў Лоеве, пад стромаю, якая пад сонцам і цёплым дажджом буяе сакаўной зялёнінаю, патанае ў салаўіных песнях.

Мае нататкі — не аб рацэ: аб рабоце раённага Дома культуры. Проста адсюль, з высознага берагу, на якім прыгожа ўзвышаецца Лоеўскі дом культуры, ад яго ганка надзвычай моцна адчуваеш непарушную сувязь паміж песнямі прыроды і чалавека, наогул — паміж прыродаю і чалавекам.

Пра лоеўскі аўтаклуб мне расказвалі яшчэ ў Гомелі. Расказвалі шмат добрага. Але іншае ўражанне, калі разам з ім едзеш у вёску.

Агітбрыгада аўтаклуба кіруе ў Аляшэеўку, невялічкую і не блізкую ад райцэнтра брыгаду не самага багатага, але і не беднага, сярэдняга эканомікай і культураю калгаса «Камуніст».

Дарога ў вёску пясчаная: аўтобус дзе буксуе напрамкі, дзе мудрыць, бярэ ў аб'езд, едзем доўга — у вёсках то злева, то справа пачынаюць запальвацца агні. Толькі вокны аўтобуса не рэагуюць на цемень: у сутані ёсць свая прывабнасць, асабліва ў час падарожжа. Міхаіл Аронавіч Ржаўскі, лектар агітбрыгады, прыкідвае, у які час яму ўкласці сённяшнюю лекцыю аб прадстаячых выбарах у Вярхоўны Савет. У прыцемку дзяўчаты запяваюць «Касіў Ясь канюшыну». Да іх падсаджваюцца выкладчык педвучылішча Уладзімір Мяжэўскі і баяніст Валеры Васкракоў. Атрымліваецца ніштавата, амаль як у мінскіх «Песняроў».

Тым часам дырэктар Дома культуры Васіль Рудзько расказвае мне пра аўтаклуб. Яшчэ году няма, як яго ўзначаліў Барыс Зыбянок, а клуб мае ўжо добрую славу. Чалавек энергічны, здольны арганізатар, з ладным вопытам работы ў культасветустановах і разам з тым яшчэ малады, ён некалі кіраваў духавым аркестрам, быў дырэктарам Дома культуры, вучыўся. Быць цудоўным арганізатарам — галоўнае, канечне, для кіраўніка аўтаклуба, але як важна мець яшчэ і тую абаяльнасць, што ідзе ад асабістага ўмення спяваць, расказваць, іграць на розных музычных інструментах, быць у душы паэтам, у жыцці — завадатарам вясёлых цікавых рэчаў. Такі Барыс.

Любіць мастацтва — яшчэ не ўсё, каб клуб быў заўсёды на колах. Запланавалі выезд брыгады і раптам — нехта захварэў, нехта заняты на рабоце, нехта па іншых прычынах не можа выступіць. А колькі выездаў бывае раптоўных, не запланаваных загадзя! Тут ад удзельніка патрабуецца заўсёдная гатоўнасць выступаць не толькі за сябе, але і замяніць іншага, патрабуецца ўменне выступаць у розных жанрах, быць універсалам. Працей — быць адданым свайму маленькаму калектыву. Пры аўтаклубе стварылі дзве брыгады. Стала лягчэй манеўраваць, часцей пачалі выязджаць. Толькі сёлета аўтаклуб пабываў у вёсках каля дваццаці разоў, хоць спрыяльны час настаў на Палессі зусім нядаўна. Канечне, можна самім сабе аблегчыць задачу — наведваць бліжэйшыя і буйнейшыя вёскі, што стаяць на вялікіх дарогах, з добрымі клубамі. Але аўтаклуб паставіў іншую мэту: перш за ўсё бываць у самых далёкіх ад райцэнтра вёсках, у тых кутках, куды рэдка дабіраюцца і кінаперасоўка, і лектар, і артыст. Вось і Аляшэеўка — з такіх паселішчаў.

Невялічкая вёска і невялічкі, па вёсцы, клуб на выгане. К прыезду аўтобуса тут поўна дзятвы — вакол клуба, на ганку. Менш старых. Яны ўжо ў клубе, на лавах — чакаюць канцэрта.

— Пачакаем,— просіць старшыня калгаса Васіль Іванавіч Сяцько.— Даяркі з фермы падыдуць.

Вядома, работы цяпер у вёсцы поўна, упраўка позняя, канцэрт пачынаецца таксама позна. Па такім часе і паўгадзіны Ржаўскаму — замнога, трэба скарачацца. Ужо гэта і не лекцыя, проста гутарка з сялянамі аб прадстаячых выбарах, аб нейкіх падзеях за мяжой, у краіне — тут ужо не столькі прамоўца кіруе гутаркаю, колькі сама аўдыторыя кіруе прамоўцам: што людзей цікавіць — пра тое і размова. Для любога лектара гэта не лёгка, але Ржаўскі не першы раз перад такой аўдыторыяй, канспектаў не прызнае, вялікі вопыт лектара дае магчымасць свабодна весці размову на любую тэму: гэтым і вызначаецца выступленне лектара агітбрыгады. Дні праз два мы неяк сядзелі з Ржаўскім у лоеўскім скверыку на лаўцы і ён расказваў мне аб сваёй культасветніцкай працы. Некалі кіраваў духавым аркестрам, загадваў раённым аддзелам культуры — цяпер працуе дырэктарам музычнай школы. Сам баяніст, трубач, трамбаніст. У Аляшэеўцы ён пасля лекцыі зноў выйшаў на сцэну і спяваў жартоўныя прыпеўкі, вёў канцэртную праграму як канферансье, дасціпна, весела. Зноў гаварыў з людзьмі пра дабро і зло, святло і цемру, то сур'ёзна, то жартам, а гэта і давала той поўны кантакт з аўдыторыяй, які потым не траціўся на працягу ўсёй праграмы, калі з вострымі пародыямі выступалі Барыс Зыбянок і Васіль Рудзько, дуэтам спявалі Марына Вайтовіч і Ала Кабанава, калі спявалі пад баян Валя Кебікава, Уладзімір Мяжэўскі. Можа часам праграме не хапала злабадзённасці, публіцыстычнай вастрыні, не да месца гучалі некаторыя песні, як «Вярніся ў Сарэнта», але ў цэлым аб выступленні агітбрыгады добра сказаў Сяцько:

— Во, ажно людзі павесялелі... Цяпер столькі працы ў калгасе, думаў — не збяруцца. Сабраліся! З кожнага двара хто-небудзь ды прыйшоў. А то — сем'ямі... Рады вам. Дзякуй.

Аўтобус ад'язджаў, калі было далёка за поўнач. Яго праводзілі ці не ўсёй вёскаю — людзі не спалі. А ў аўтобусе нехта ўспамінаў, як летась, у самыя палявыя работы, выступалі на палявых станах, давалі па некалькі канцэртаў у дзень, тут жа прыкідвалі, як падрыхтавацца да сенакосу.

Лета несла свае шляхі-дарогі...

Не лёгка, безумоўна, удзень працаваць або вучыцца, увечары бегчы на рэпетыцыі ў Дом культуры, затым ехаць некуды ў вёску з канцэртам, апоўначы ці пад раніцу вяртацца дамоў і той жа раніцай — зноў на працу, на вучобу. Тут патрэбны і нейкая апантанасць, і добраахвотнае ахвяраванне сваім часам, адпачынкам. У гэтым сэнсе Лоеўскі дом культуры — дом сапраўдных энтузіястаў самадзейнага мастацтва. Амаль кожны вечар тут адзін калектыў збіраецца на рэпетыцыю, другі — у дарогу, трэці выходзіць на сваю раённую сцэну, а калектываў нямала: акрамя агітбрыгад працуе драматычны гурток, дзве вакальныя групы, гурток мастацкага чытання, духавы аркестр. Можна зразумець і аўтаклубнага шафёра, які часам возьме, ды і пабурчыць:

— Учора з агітбрыгадаю да трох ночы, сёння... Ат! Жыццё, называецца...

На гэты раз, амаль адразу пасля паездкі з агітбрыгадаю, ён вёз драматычны гурток, удзельнікаў спектакля па п'есе В. Шкваркіна «Чужое дзі-

На панадворку ён агледаў старую хату, быццам бачыў яе ўпершыню. На страсе нешта расло: ці то кусцік лазы, ці то лебяда. Бурыя плямы моху, як струпы, вытыркваліся на яе паўночным баку. Там-сям чарнелі трэскі. І Сцяпан успомніў, як яны малыя ўставалі рана на грамніцы і кідалі на страху трэскі. Маці казала, што той, хто досвіта ўскіне іх, будзе знаходзіць птушыныя гнёзды, а то і клад які ўдасца напаткаць. «Пэўна, сынавы гэта, — падумаў Сцяпан, — нашы недзе даўно згнілі». Сцяпан падышоў да акна. Доўга зазіраў у перакрыжаваныя шыбіны, як бы цікуючы за кім, затым вярнуўся да вугла і ўпёрся плячом. Ён пачуў, як хруснуў вугал, але хата не зварухнулася. «Можна лезці смела», — рашыў і заторкнуў тапор за дзягу, якой быў падперазаны паверх пінжака.

Здавалася, толькі крані страху, і яна, як мякіна, шухне далоў. Але салома толькі зверху была, як труха. Ад столі ж яна жаўцелася, быццам толькі што з поля. Ашчарэпіўшы нагамі, як сеўшы конна, вільчык, Сцяпан ёрзаў па ім з канца ў канец, соп, гоцкаўся. Чуў, як хрумсцелі пад ім, нібы сухары, прывязкі, з лёгкім шоргатам сыпалася долу труха. Сцяпан прыслухаўся — адкуль гэта будзе вецярок? Узяў жменю трухі, пацёр у далонях і высыпаў перад сабой: вецер набягаў з усходу. Тады Сцяпан асцярожна, нібы падымаючы з пасцелі соннае дзіця, згроб першы ахапак, звязаў яго ссучанай ніткай, чыркнуў па ёй тапаром, і куль пакаціўся ўніз. Ззаду за Сцяпанам агаляліся латы: жоўтыя, як зусім здаровыя. Толькі калі ён ступаў на іх, з іх цененька струменіў белаваты, нібы дзеразовы пыл.

— Не растрасай там! — раз-пораз пакрыкваў Сцяпан са страхі на Ганну, якая складвала кулі ў паветку. Ганна моўчкі рабіла сваю справу, і калі Сцяпан крыкнуў ёй тое каторы раз, не вытрымала:

— Куды яна ўжо варта? Усёроўна карове пад ногі будзе.

— Табе ўсё абы зблоціць.

Сцяпан і не заўважыў, як скінуў апошні куль. Зашчэмлены між лат, ён азірнуўся наўкола, выцер рукавом пот. На гарышчы ляжаў калаўрот. Пасля вайны купіў яго Сцяпан на рынку за пуд бульбы. Як сталі калгасы, то калаўрот ужо не спатрэбіўся. Ганна неяк вымкнулася, каб узяць ды спаліць. Сцяпан жа запратэставаў: мала на што яшчэ можа спатрэбіцца, хай сабе не ўвесь калаўрот, дык кола.

Толькі залажыў Сцяпан тапор пад лату, каб узадраць, як згледзеў на крокве вялікую чорную пляму. З сярэдзіны яе, як зрэнка, глядзела маленькая дзірачка. Сцяпан адхапіў руку, быццам чорны вугаль мог апячы яе. І прыгадалася яму, як яны ўсе хаваліся ад немцаў у невялічкім склепе на агародзе. Немцы адступалі, ехалі на машынах па гасцінцы і стралялі па вёсцы. Сцяпан ляжаў і бачыў, як успыхвалі адна за адной хаты. А потым узвіўся блакітны дымок і над яго страхой. Сцяпан і да цяперашняга дня не можа ўцяміць, як выскачыў са склепа, хоць на яго крычалі жонка і сын, каб вярнуўся. Як коршун на курыцу, узляцеў тады Сцяпан на страху і што было сілы біў пінжаком па дыме, які пачынаў ужо раз'ядаць салому.

Ён доўга помніў пра гэта, і ўсе кутнікі тады дзівіліся, які ён, Сцяпан, смелы і шчаслівы. Кутнікаў было многа, бо ў вёсцы з паўсотні хат засталося толькі тры. Сцяпанава хата нагадвала тады пчольнік. І на печы, і на палку, і на падлозе было поўна дзяцей, дарослыя ж начавалі хто пад застрэшкам, а хто і пад адкрытым небам — лета было цёплае.

«І дурны ж то быў, — мільганула цяпер у Сцяпанавай галаве. — Застрэлілі б немцы, і была б тут і хата, і ўсё».

Сцяпан рыўком націснуў на тапарышча.

А-а-а! — як усёроўна заплакала дзіця, заскрыпела лата на ўсё сяло, а Сцяпана як токам ударыла. Але праз якое імгненне заўладала ім незразумелая злосць, і ён рыўкамі пачаў націскаць на тапарышча, не чуючы прарэзлівага піску цвікоў і голасу Ганны, якая нешта крычала знізу. Грукацелі, коцячыся па кроквах, латы, глуха чвякаліся на зямлю. Ганна ледзь паспявала адцягваць іх убок. Сцяпан падаў ёй калаўрот, скінуў матавіла, дзіравыя вёдры.

Комін стаяў, як выліты, і Сцяпан рашыў не чапаць яго пакуль. Яшчэ перад вайной рабіў яго Сцяпан з саломы і гліны: круціў вязьмы кружкамі і ўкладваў іх адзін на другі, а зверху і знутры абмазваў глінай. «Вось бы і ў новай хаце такі зрабіць — веку б не было», — падумаў Сцяпан. На гары было шмат мяління, пяску, усякай трухі. Сцяпан дагробся да столі і падважыў тапаром дошку. Яна глуха хруснула — нібы кашлянуў стары чалавек і, паказаўшы Сцяпану да сівізны зацвілы бок, разам з шумавіннем шухнула ў сярэдзіну.

У хаце зашамацела, зашастала, нібы там забегалі мышы. Паказалася счарнелая бэлька з жаўтлявым паскам — следам ад калысак. Сцяпан правёў па ім рукой і не пачуў, а хутчэй адчуў знаёмы скрып.

Амаль паўхаты займала печ. Цяпер яна была шэрая: ці то закопчаная, ці то запыленая. Чырванеў толькі вялікі лабасты пяколак, выслізганы каленямі. Сцяпану нават здалося, што ад печы ідзе цяпло. Яму ажно захацелася прылегчы. Ён успомніў, як добра было грэцца на печы нават і тады, калі ўжо быў дарослым. Малых жа печ не толькі грэла, яна была надзейнай схованкай ад маці, калі яна збіралася лупцаваць каго. Як толькі малыя паспявалі ўцячы на печ, яна брала вілачнік і з долку тыкала ім на печ. Тады вілачнікам пападала толькі таму, хто не паспеў заняць кутка ці своечасова ўкруціцца ў рыззё.

На куце стаяў стол, доўгі, па краях махрысты. Гэта Мікола вечна майстраваў на стале: пілаваў фанеру, дошкі. Сцяпан і лупцаваў яго, але сын хутка забываўся пра дзягу, і не было таго дня, каб на краі не бялеў новы знак. Урэшце Сцяпан махнуў рукой на сынава свавольства, спадзеючыся, што Мікола вырасце — сталяром будзе, надта ж любіў майстраваць. І цяпер у новай хаце стаіць яго этажэрка са старымі школьнымі падручнікамі, і рамкі для здымкаў, і люстэрка — яго работа. Але сталяром Мікола чамусьці не стаў. Як пайшоў у армію, так і не вярнуўся. Колькі ні пісаў яму Сцяпан, колькі ні прасіў — заўпарціўся. А хата, як мора, жыві ды радуйся. Па канцах стала, нібы тыя гузікі, чарнелі кобкі. Гэта Сцяпан з братамі, а пасля і Мікола лускалі ў іх арэхі.

Столь паддавалася лёгка, толькі заўпарцілася дошка над сталом. Яна была новая, прыбітая вялізнымі драцянымі цвікамі. Гэтую дошку Сцяпан вычасаў пасля вайны з цэлага бервяна-смаляка. Ён памкнуўся было стаць нагой на стол, каб зручней падважыць знізу тапаром, але перадумаў: стол — гэта ўсё-такі стол. Цяпер Сцяпан згледзеў, што ад парога стол выглядаў чарней. Тут яго заўсёды мыла Ганна, на куце — Тэкля, жонка старэйшага брата Васіля, сярэдзіну — Марыля, жонка сярэдняга, Івана. Спачатку яны дзялілі стол папалам, а як ажаніўся Сцяпан то на тры часткі. Братавыя заўсёды ставілі гаршкі са стравай на Ганніну палавіну, і колькі ні скрэбла, ні паласкала Ганна — стальніца была чорнай.

«Каму ты патрэбен ужо», — думаў Сцяпан пра стол, спрабуючы нагой, ці вытрымае, і, стаўшы на чарнейшую яго частку, пачаў асцярожна ўздзіраць дошку.

Над зрубам мітусіўся густы шэры пыл. У яго дрыготкім масіве варушыўся Сцяпан. Здалёку можна было падумаць, што ён тушыць пажар. Бярвенні былі лёгкія, сухія, у сярэдзіне паточаныя шашалем. Ад вуліцы не было вуглоў, і таму нязручна было падступіцца. Вуглы паадбівалі на Міколавых хрэсьбінах і на хрэсьбінах яго меншых братоў і сястрычак, якія паўміралі яшчэ малымі...

Толькі пад самы вечар Сцяпан управіўся з хатай. Калі ішоў мыцца на рэчку, то бачыў, як спыняліся насупраць яго двара аднавяскоўцы, нешта гаварылі, усміхаліся. У небе пачыналі ўжо праразацца дробныя, як макава зерне, зоркі. Ці то ад вады, ці ад вячэрняй прахалоды ва ўсім целе Сцяпан адчуў палёгку. Калі ўзышоў на панадворак, з'явілася такое адчуванне, нібы ён апынуўся на вяршыні высокай гары. На месцы, дзе стаяла старая хата, зеўрыла шэра-сіняя прорва вячэрняга паўзмроку, з якой час ад часу выплывалі цёмныя цені стагоў на аселіцы. Новая хата выглядала надта вялікай і строгай, што ажно ў Сцяпана закружылася галава. Сцяпан хацеў было ісці ў хату, але перадумаў і скіраваў на агарод. Вышчыкнуў некалькі гуркоў, якія трапіліся пад руку. І яшчэ раз пагледзеў на хацішча. На ім, як здань, шарэла печ. Сцяпану здалося, што яна варушыцца. Нейкі страх раптоўна ахапіў Сцяпана, і ён, не азіраючыся, хутчэй укуліўся ў сенцы. Ганна падаіла карову і ўжо мыла ў трысцене бляшанку. Сцяпан паклаў на стол гуркі, на лаву — запыленую сарочку і пінжак і пайшоў у новую хату, сеў за стол і колькі часу сядзеў аблакаціўшыся, маўчаў, потым паклікаў Ганну:

— Ты скора там?

— А няго ж, ужо. Хадзі, вячэраць будзем.

— Ды ты нясі сюды, у новую хату. І гарэлку нясі.

— З чаго гэта? — зазірнуўшы, запыталася Ганна. — Хату замачыць хочаш?

— Якое там мачыць! Улазіны справім.

— Улазіны?.. А ці ты забыўся, як пазалетась балявалі ўсе два дні?

— То ўсе, а сягоння самі будзем.

— Як сабе хочаш, але і ў трысцене можна выпіць, а тут хай бы чысцей было.

— А я хачу тут. І заўтра каб вазоны пасадзіла, а то ў хаце, як у той пуні.

— Колькі садзіць тыя вазоны! Садзіла ж, дык змерзлі зімой.

— Цяпер не змерзнуць. Тут жыць будзем...

---

ця»—аж у Рэчыцкі раён, да суседзяў.

У Лоеве прэм'ера драмгурткоўцаў прайшла з поспехам. У раённы Дом культуры пасыпаліся просьбы паказаць спектакль яшчэ раз. І другі раз па заяўках гледачоў драмгурткоўцы выступалі ў запоўненай зале, не пуставала ніводнае месца.

— П'еса даваенная. Але, аказваецца, і старое можа глядзецца сёння з цікавасцю. Гэткі поспех быў у нас раней з купалаўскай «Паўлінкаю»,— разважае кіраўнік драмгуртка Анатоль Аляксеевіч Захарэўскі.

Але, скажам адразу, у вёсцы Артукі Рэчыцкага раёна лоеўскаму «Чужому дзіцяці» не пашанцавала.

Вялікая зала, вялікая сцэна—калгасны Дом культуры пабудаваны з размахам, па тыповым праекце. Вось на сцэну выходзіць гераіня спектакля маладая актрыса Маня Караулава (яе іграе работніца раённай санстанцыі Людміла Прыходзька). У руках Мані—тэкст першай ролі, якую ёй трэба сыграць. Яна перажывае, хвалюецца: «Я адна на сцэне... Тут рампа, там гледачы. Якія ўсе страшныя!.. Лепш не глядзець. Яны ж не ведаюць, што гэта мая першая роля...» І тут—смех у зале. Чаму? У камедыі будзе яшчэ нямала смешных сітуацый, для смеху падстаў хопіць, але чаму цяпер, дзе і Людміле Прыходзька і яе гераіні Мані Караулавай не да смеху? Маня—Людміла перажывае, хвалюецца, перажывайце ж разам з ёю...

Падзеі развіваюцца. Словы з Манінай ролі аб тым, што ў яе, не ў Мані, а у яе гераіні, будзе дзіцё, усе, падслухаўшы, прымаюць за факт з жыцця самой Мані Караулавай. Гэта—як гром з яснага неба. Асабліва—для Маніных бацькоў і жаніхоў. Нарэшце, усе звыкаюцца з думкаю, што ў Мані будзе дзіцё. І вось—Маня: «Тата! Я павінна сказаць... што ў мяне зусім не будзе дзіця.» Караулаў: «Як не будзе? Чаму?.. Я цябе прашу і загадваю: каб дзіцё было... я да яго прывязаўся...» Вось дзе камічная сітуацыя: чалавек прывязваецца да выдуманага ім жа дзіцёнка, патрабуе ад дачкі, каб яно было. Але ў зале ціха. Там сітуацыю не разумеюць, камізм не ўспрымаюць. Чаму? Пралічыўся акцёр?.. Не. Акцёры іграюць добра. Асабліва эмацыянальны, псіхалагічна дакладны вобраз Караулава стварае Анатоль Аляксеевіч Захарэўскі. Калі ж у зале і яго не разумеюць, дык гэта, аказваецца, натуральна—у зале... дзеці. Так, амаль адны дзеці... «Чужое дзіця» ўяўлялася ім дзіцячым спектаклем, нікога ў вёсцы не знайшлося, каб растлумачыць, што за пастаноўку прывезлі лоеўцы. А яна не для дзяцей і ў плане мастацкім, і ў плане педагагічным. Зразумець, як трэба, спектакль не дапамог нават дасціпны дарожны будаўнік Якаў, вобраз якога цудоўна іграе тэхнік-геадэзіст Аляксандр Вінаградаў—акцёр вельмі самабытны, каларытны.

І вось... Была цудоўная клубная сцэна, вялікая зала, але не было ў гэтай зале таго гледача, які ў Аляшэеўцы сустракаў агітбрыгаду, гледача які б аказаўся на ўзроўні закладзеных у спектакль думак і вобразаў, бо ў вёсцы Артукі нават рэкламы не вывесілі, тут нават не ведалі, а што за «Дзіцё» прывезлі лоеўцы, для каго яно?

У ЛОЕЎСКІМ доме культуры ёсць метадычны кабінет. Ён нямала робіць для сельскай мастацкай самадзейнасці ў падборы рэпертуару, вучобе культасветработнікаў, у практычнай дапамозе, калі работнікі Дома культуры едуць на месца і там праводзяць рэпетыцыі, заняткі, даюць кансультацыі. Тут добра ведаюць, што робіцца ў вясковых мастацкіх калектывах. Ведае пра гэта і старшы метадыст Валянціна Уладзіміраўна Бераснева.

— Мяне хвалюе, што некаторыя славутыя ў мінулым хоры, лепшыя прапагандысты нацыянальнай песні, сыходзяць са сцэны. А мы, метадысты, мала ў чым можам дапамагчы...

Яна расказала пра акапэльны Дзеражыцкі хор. Лёс яго сапраўды невясёлы. Яшчэ нядаўна ён спяваў народныя песні Палесся, спяваў шматгалоса, хораша, удзельнічаў у конкурсах, заваёўваў прызы, перамагаў. Але час ішоў—хор мяняўся. Старыя спевакі адыходзілі, прыходзілі маладзейшыя. Цяпер хору патрэбны чалавек, які не проста кіраваў бы ім, але ведаў і любіў палескую песню, быў адданы гэтай зямлі, людзям, арганічна ўспрымаў іх мастацтва. Такога чалавека няма. Прыслалі былі дзяўчыну з культасветвучылішча, разоў пяць яна збірала харыстаў, слухала іхнія песні, гуляла па рацэ, загарала, а потым, адпачыўшы—з'ехала. Можа яна і была здольная выпускніца вучылішча, але самабытным палескім хорам кіраваць не змагла. Разы чатыры за год сама Валянціна Уладзіміраўна ездзіла ў Дзеражыцы, праводзіла там спеўкі, але часцей не паедзеш: у самой рэпетыцыі з вакальнай групай у Доме культуры, метадычны кабінет, трэба бываць і на іншых вёсках, а Дзеражыцы—далёка, амаль сорак кіламетраў ад Лоева. Не заўсёды туды і дарога ёсць. На думку Берасневай, трэба паслаць добрага спецыяліста ў Бывалькі—цэнтр калгаса, дзе ёсць Палац культуры, а сапраўднага мастацкага кіраўніка няма. Ад Бывалек да Дзеражыц кіламетраў восем. І такі чалавек мог бы наладзіць справу не толькі ў Бывальках, але і ў Дзеражыцах.

Павінен дапамагчы Дзеражыцкаму хору раённы аддзел культуры. Але справа не толькі ў нерастаропнасці мясцовага кіраўніцтва. Лёс Дзеражыцкага хору ў нейкім сэнсе характэрны для многіх іншых самабытных вясковых калектываў рэспублікі. У свой час «Літаратура і мастацтва» пісала аб такім жа лёсе Княжыцкага хору і таленавітага калектыву з вёскі Харошкі — абодва на Магілёўшчыне. Факты прымушаюць задумацца. Як бы не хапала кадраў для сельскіх культасветустаноў, а ў такія вёскі, як Дзеражыцы, Княжыцы, Харошкі, дзе здаўна склаліся і жывуць высокамастацкія традыцыі, самабытныя мастацкія калектывы—сюды мастацкіх кіраўнікоў трэба пасылаць у першую чаргу.

У метадычным кабінеце кожны дзень збіраюцца работнікі Дома культуры, удзельнікі мастацкай самадзейнасці, наведваюцца сюды культасветработнікі сяла. Прыходзяць за парадамі, проста пагаварыць аб працы, падзяліцца думкамі. Тут раптам даведаешся, што раённаму Дому культуры надзвычай патрэбна маторная лодка, бо ў многія вёскі лепш выязджаць і агітбрыгадзе, і мастацкім гурткам РДК, і метадыстам вадою—па Дняпры і Сажы; што на ўвесь Лоеўскі раён адзін камплект касцюмаў для хору—на раённых аглядах касцюмы пераходзяць ад калектыву да калектыву... Не хапае аднаго, другога, трэцяга. Без нечага можна пакуль абысціся, а без чаго і не... Напрыклад, як абысціся раённаму Дому культуры без рэпертуарнага матэрыялу? А яго вельмі мала. Асабліва для хораў, вакальных груп, няма цікавых аднаактовак для драмгуртка. Агітбрыгады самі складаюць сцэнарыі, падбіраюць рэпертуар, а іншым калектывам цяжэй. Валянціна Уладзіміраўна мае адзіны зборнік беларускай песні ў метадычным кабінеце: «Песні беларускага народа» пад рэдакцыяй Г. Цітовіча, які выйшаў яшчэ ў 1959 годзе. Калі і былі якія выданні пазней, дык да Лоева яны не даходзілі, як не дайшла і «Анталогія беларускай народнай песні» пад рэдакцыяй Р. Шырмы. Вядома, гэтыя вельмі патрэбныя кнігі выдаюцца надзвычай малымі тыражамі — знайсці іх сёння немагчыма. Калісьці мастацкай самадзейнасці вельмі дапамагаў дадатак да часопіса «Маладосць» — «А гармонік грае, грае». Але даўно няма і яго...

ПРАБЛЕМ, без вырашэння якіх цяжка развіваць далей нашу мастацкую самадзейнасць, многа. Гэта відавочна асабліва цяпер, калі ў рэспубліцы праходзіць агляд раённых і гарадскіх дамоў культуры, калі самадзейныя калектывы аналізуюць здабыты ў працы вопыт, шукаюць новыя сродкі прапаганды народнага мастацтва, таго мастацтва, якое вучыць любіць свой край, сваю Айчыну.

**В. ФІЛІМОНАЎ.**

# ...І БЫЛО ЯШЧЭ КАХАННЕ

Ул. МЕХАЎ

## «НАРОДНАЯ ВОЛЯ». ЛЁС ДЗЯЎЧЫНЫ З ПАЛЕСКАГА ГАРАДКА

баў; Марозаў выцягнуў свой кінжал, за ім другі, трэці, іх паклалі скрыжаваныя на місу і без папярэджання, у раптоўным парыве грымнуў магутны ўрачысты напеў вядомай гайдамацкай песні: «Гой не дывуйцеся, добрыя людзі, шчо на Ўкраіне паўстанне». Гукі песні шырэлі і раслі, да яе далучаліся ўсё новыя і новыя галасы, а трапяткое полымя мігцела, чырванавата паблісквaючы, нібы загартоўваючы зброю на барацьбу і на смерць... Калі жжонка была гатовая, запалілі зноў свечкі і разлілі па шклянках гарачы трунак. Надыходзіў 1880 год. Што абяцаў ён прысутным, што абяцаў ён Расіі?.. Калі прабіла 12 гадзін, пачалі чокацца; хто паціскаў суседу руку, хто абменьваўся таварыскім пацалункам; усе пілі за свабоду, за радзіму... Нехта прапанаваў паспрабаваць спірытычную варажбу; у адну хвіліну са смехам і жартамі падрыхтавалі вялікі аркуш паперы з выразнымі літарамі, перакулілі на яго спадачак і селі за стол. Першым быў выкліканы дух імператара Мікалая І, яго спыталі, якою смерцю памрэ яго сын Аляксандр ІІ. Спадачак доўга няпэўна блукаў і нарэшце выпаў страшэнны адказ — ад атруты... Гэты адказ расхаладзіў усіх, ён здаўся пазбаўленым усялякай верагоднасці, бо некаторыя з прысутных ведалі, што рыхтуецца выбух у палацы, а ўсім наогул было вядома, што атрута не была той зброяй, якой карысталася б арганізацыя Выканаўчага камітэта «Народнай волі»... Варажбу кінулі. Нехта заспяваў зноў... Так прайшоў вечар. Трэба было разыходзіцца. Усім адразу выйсці было небяспечна, а таму разыходзіліся па двое і па адным, каб не прыцягваць увагі дворніка, што ляжаў, як звычайна, упоперак брамкі...»

●

НЕ ЦЯЖКА ЗДАГАДАЦЦА: такую вечарынку, такое шумнае святкаванне («гукі песні шырэлі і раслі, да яе далучаліся ўсё новыя і новыя галасы...») яны маглі дазволіць сабе толькі на канспіратыўнай кватэры.

Не цяжка здагадацца: мы з вамі зазірнулі туды таму, што ў няроўным сіне-чырвоным мігценні пуншавага агню, у гаркава-салодкім ад паленага цукру і спірту чадзе ўбачылі дарагія нам сілуэты Гельфман і Каладкевіча.

Каладкевіч толькі-толькі прыехаў у Пецярбург з Адэсы — галоўнай справай Выканаўчы камітэт лічыў цяпер ажыццяўленне смяротнага прысуду цару, і ў сталіцы збіралася дзеля гэтага лепшае, што мела партыя.

Гельфман ужо з месяц — гаспадыня кватэры, на якой адбывалася вечарынка...

Апынуўшыся пасля турмы і ссылкі на волі, яна сапраўды скардзілася сябрам на стомленасць, казала, што ёй хацелася б адпачыць. «Але гэта быў такі гарачы час, — зазначае Любатовіч,—усе былі так захоплены барацьбой, што агульны вір закруціў і яе...»

У лістападзе, калі шмат хто з яе новых таварышаў выехаў сустракаць імператарскі картэж у Маскву, Харкаў і Адэсу, а Выканаўчы камітэт спадзяваўся яшчэ, што ў партыі хопіць сіл не на адну падрыхтоўку царазабойства, Гельфман уваходзіць у баявую групу, якая сочыць за пецярбургскім генерал-губернатарам Гурко; гэтага лютага сатрапа толькі пазнейшае рашэнне кіраўніцтва «Народнай волі» не адхіляцца ні на які іншы замах, апроч галоўнага, уратавала ад рэвалюцыйнай кары...

У снежні па даручэнні Аляксандра Міхайлава яна знаходзіць і абсталёўвае канспіратыўную кватэру. На Гарохавай. Разам з Іахельсонам.

«...Ясна памятаю наш уваход на лесвіцу ў двары налева і чатыры акны над уваходам, якія бачны былі з брамы, і ў адным з якіх знаходзіўся для нашых наведвальнікаў знак бяспекі, які ў выпадку правалу мы павінны былі зняць,—чытаем у брашуры Іахельсона «Першыя дні «Народнай волі».— Успамінаю, як я даведваўся пра імёны і прафесіі кватарантаў, што жылі над і пад намі, каб таварышы, што прыходзілі да нас, калі натыкнуцца на нечаканы ў нас вобыск ці засаду, маглі ўказаць, куды накіроўваюцца.

Я жыў па паперах адстаўнога чыноўніка, а Гельфман па пашпарце мяшчанкі. Для дворнікаў яна была маёю грамадзянскаю жонкай, і да яе таму ставіліся прасцей, чым да пані... Раніцай каля 10—11 гадзін я звычайна ішоў з партфелем падпахай, нібыта на прыватную службу, і вяртаўся пад абед з той або іншай пакупкай, якая складалася з дваццаці—трыццаці фунтаў паперы для друкарні «Народнай волі», друкарскіх фарбаў, бутлі азотнай або сернай кіслаты і іншых рэчаў не для мірнага карыстання...

Амаль штодня прыходзіў Міхайлаў з напісаным дробным почыркам спісам асоб, у якіх павінен быў быць ноччу ці ў бліжэйшыя дні вобыск. Мы перапісвалі прозвішчы і адрасы, каб рознымі шляхамі папярэдзіць іх... Я не ведаў імя Клетачнікава.., але я ведаў, што гэтыя спісы прыходзяць непасрэдна ад чалавека, які служыць у ІІІ аддзяленні...»

Ах, гэты легендарны Клетачнікаў! Сціплы, непрыкметны малодшы памочнік справавода жандарскага дэпартамента — і нарадаволец... Адмысловы гісторыка-рэвалюцыйны дэтэктыў, напісаны самым пераканаўчым аўтарам — жыццём!..

«Кватэра наша служыла таксама для часовага хавання выбуховых рэчываў,— прыгадвае далей Іахельсон,— і месцам, дзе часова маглі схавацца людзі, якіх асабліва шукалі. Так, Пяроўская правяла ў нас пасля свайго прыезду з Масквы каля месяца. Яна жыла без прапіскі і выходзіла звычайна прыцемкамі пад вэлюмам і вярталася не позна....»

Бадай, ніводная іншая частка жыцця Гельфман не ўзнаўляецца так яскрава і дэталёва, як гэтыя пецярбургскія чатырнаццаць — пятнаццаць месяцаў перад выбухам 1 сакавіка 1881 года. З прамоў пракурораў, пратаколаў допытаў сведкаў, успамінаў блізкіх і не дужа блізкіх людзей можна выявіць што, дзе і як яна рабіла з дакладнасцю часам да тыдня, дня, пары сутак.

Мы ведаем факты:

што вясною, пасля чатырох месяцаў гаспадарання на Гарохавай яна прымае на свае рукі кватэру, дзе збіраўся рабочы гурток нарадавольцаў;

што летам ёй даручаецца — ужо на новай канспіратыўнай кватэры — дынамітная майстэрня;

што з верасня 1880 года па люты 1881 яна гаспадарыць з Макарам Цяцёркам у кватэры на Троіцкім завулку, 27 — адной з галоўных канспіратыўных кватэр партыі: спачатку тут знаходзілася друкарня арганізаванай Жалябавым «Рабочай газеты»— Гельфман памагае наборшчыкам і распаўсюджвае газету ў ребочых кварталах — потым узнікае патрэба аддаць і гэтую кватэру пад дынамітную майстэрню;

што з лютага 1881 года майстэрня і ўвогуле як бы штаб-кватэра блізкага замаху пераносяцца ў дом № 5 па Цялежнай вуліцы — і гаспадыня тут зноў жа Гельфман, цяпер ужо разам з Саблінын...

«Амплуа» гаспадыні канспіратыўнай кватэры — хоць вяла яна поруч з гэтым і «прапагатарскую» работу, была прадстаўніцай Выканаўчага камітэта ў Чырвоным Крыжы «Народнай волі» і г. д. — замацавалася за ёю недарма. «Ніхто не ўмеў лепш за яе ладзіць з дамаўласнікамі і дворнікамі,— сведчыць Іахельсон,— загаворваць, што называецца, зубы няпрошаным наведвальнікам і адцягваць іх увагу ад кампраметуючых акалічнасцей, якія, здавалася б, непазбежна павінны трапіць на вочы. Пад выглядам самай нязмушанай прастаты, нават балбатлівасці, у ёй тоілася выдатная прысутнасць духу і вынаходлівасць...»

Мы ведаем, якое ўражанне рабіла яна на людзей. М. Эльцына-Зак, якая была знаёмая з Гельфман і ў Кіеве, і ў Пецярбурзе, пісала ў 1924 годзе ў часопісе «Каторга и ссылка»:

«...Геся Гельфман з першага погляду рабіла ўражанне несамавітай яўрэйскай мяшчанкі паўінтэлігенткі: невялікага росту, шыракаватая ў постаці, з цёмным колерам твару, з вялікімі цёмна-карымі вачыма, але пры бліжэйшым знаёмстве ўсё знешняе сплывала ў Лету, і яна зачароўвала дабрынёй, мяккасцю і ласкай... Мы бачылі ў ёй увасабленне ўсяго высокага, прыгожага, альтруістычнага і ідэйнага, яна была самаахвярная ў вялікіх і малых справах. Вечна ў турботах пра каго-небудзь або пра што-небудзь, вечна заклапочаная, занятая, яна ніколі не прыходзіла да нас бязмэтна, пасядзець, пагаварыць: то ёй трэба было пазычыць грошай, то трэба было атрымаць касцюм для каго-небудзь, то пакінуць які-небудзь пакунак, што неабходна было схаваць, то прапанаваць наладзіць вечарынку для збору грошай на карысць рэвалюцыйнага Чырвонага Крыжа і г. д.... Мы, вядома, ішлі ёй насустрач, бо ўсе былі спачуваючыя. Яна забяспечвала нас нелегальнай літаратурай — «Народнай воляй» і іншымі выданнямі, кніжкамі для народа. Па яе просьбе мы аддалі ў яе распараджэнне нашу кухню... У кухні нешта майстравалі, працавалі, грукалі, нібыта малаткамі, нешта зачыналася, але што, мы не ведалі і лічылі нясціплым пытаць, разумелі, што гэта лішняе. Я не магла падумаць тады, што ў нашай кухні выраблялася смертаносная зброя для тэрарыстычнага акту першага сакавіка...»

Мы шмат што ведаем пад гэты час і пра Каладкевіча — якім аўтарытэтным і дзейсным быў ён у Выканаўчым камітэце; як разам з Жалябавым і Фігнер наладжваў сувязь «Народнай волі» з рэвалюцыйна настроеным афіцэрствам; як, выбіваючыся з сіл, нароўні з мацнейшымі таварышамі, рабіў па начах падкоп са славутай «сырнай крамы Кобазевых» пад праезджую частку Малой Садовай вуліцы—1 сакавіка 1881 года мінны гасцінец чакаў Аляксандра ІІ і тут, як з'яўляўся нейкі час перадатачным звяном паміж кіраўніцтвам партыі і Клетачнікавым...

Мы нічога не ведаем — нічагусенькі!— толькі пра іх каханне. Ні перапіскі, ні штрыха ў чыіх-небудзь успамінах, ні бытавой дэталі, што стала б сёння праменьчыкам на іх не проста таварыскія адносіны. Адно ў брашуры Іахельсона: «У Пецярбурзе яна сустрэла некаторых з ранейшых кіеўскіх сваіх знаёмых, у тым ліку і Каладкевіча, за якога яна і выйшла замуж (вядома, грамадзянскім шлюбам) неўзабаве пасля свайго ўцёку з высылкі. Зрэшты, яны ніколі не жылі на адной кватэры, і гэтыя яе сардэчныя адносіны настолькі не заміналі яе рэвалюцыйнай справе, што для не асабліва блізкіх сяброў заставаліся нават зусім не вядомыя...»

Тым не менш — гучы тут, шчымлівая лірычная мелодыя! «Заставаліся зусім не вядомыя:..» Але ж нам з вамі — вядомыя! Дык не будзем жа зацугляць уяўлення...

Прыкмячаю Каладкевіча сярод мужчын вакол мігатлівага пуншавага агню на прыгаданай Любатовіч вечарынцы, і вось ужо ўглядаюся ў яго стомлены твар павільгатнелымі — дзякуй богу, пры патушаных свечках гэтага не заўважаюць—вачыма Гесі: ёй зараз невыказна хораша ад таго, што ў нядоўгія хвіліны сам-насам з ёю быў ён сёння разгублена, бездапаможна пяшчотны, гэты суровы, хмурны барадач...

Вычытваю ў Іахельсона, што ў Пецярбурзе да яе «толькі выпадкамі, зрэдзь, вяртаўся ранейшы бесклапотны настрой»,—і ў думках па-свойму гэтую фразу працягваю: маўляў, тады, калі побач быў Каладкевіч. Бо сапраўды перакананы, што гэта з радасці сустрэчы з каханым Гесі хацелася часам — цытую Іахельсона далей—«парагатаць, пашумець, найграць якую-небудзь своеасаблівую мелодыю на не зусім звычайным музычным інструменце, адмыслова змайстакаваным ёю з грэбня...»

Натрапляю ў матэрыялах «працэсу 17-ці» (1883 г.) на эпізод, як Грынявіцкі знаёміць Барэйшу, яшчэ аднаго прадстаўніка «беларускай калоніі» сярод пецярбургскіх нарадавольцаў, з Каладкевічам, і Каладкевіч вядзе новага знаёмага да Гельфман, — і думка зноў скіроўваецца туды ж: сам пазёў, выкарыстоўвае кожную магчымасць, каб пабачыцца...

У артыкуле А. В. Якімавай з поваду яшчэ адной п'есы пра нарадавольцаў, змешчаным у часопісе «Каторга и ссылка», спыняюся на сярдзітай фразе, што «на канспіратыўных кватэрах, асабліва такіх, якія маюць непасрэдныя адносіны да тэрору, пры камбінацыі асоб улічваюцца толькі інтарэсы справы, а асабістыя пачуцці тут ні пры чым...», успамінаю Пяроўскую і Жалябава, Вольгу Любатовіч і Марозава, якія разам сяліліся, здаралася, не з адных інтарэсаў справы, і думаю зноў пра Гельфман: як яна, мусіць, зайздросціла гэтаму няхітраму жаночаму шчасцю сябровак, як ёй, мусіць, хацелася хоць нядоўга таксама пажыць пад адным дахам з каханым...

Я, вядома, магу дзе і памыліцца—уяўленне рэч не самая надзейная. Але ўсё-такі — гучы тут, шчымлівая лірычная мелодыя!..

●

ПРЫПЫНІЦЕСЯ, набярыце ў лёгкія паветра — узнімаемся на самую вяршыню.

Праз некалькі гадзін адбудзецца небывалае — Расію страсяне здзейснены рэвалюцыйны прысуд цару. Не пераварот у царскім палацы, не змова няўдосталь улагоджаных свіцкіх генералаў з наследнікам, якому да свербу ў ягадзіцах карціць самому ўзмасціцца на трон, — помста ад імя народа.

«Толькі адпомсціўшы за загубленых таварышаў, рэвалюцыйная арганізацыя можа прама зірнуць у вочы сваім ворагам; толькі тады яна ўзнімецца на тую маральную вышыню, якая неабходна дзеячу свабоды для таго, каб павесці за сабой масы», — абвясцілі яны яшчэ пры самым нараджэнні сваёй арганізацыі, яшчэ калі існавала «Зямля і Воля» і прыхільнікі рэвалюцыйнага тэрору гуртаваліся вакол дадатка да асноўнага органа землявольцаў — вакол «Лістка Зямлі і Волі», з перадавога артыкула якога і цытуюцца гэтыя словы.

Надыходзіць гадзіна самага гучнага акту помсты. Грознага, лічаць яны, і ачышчальнага. Вартага, на іх думку, і тых ахвяр, што былі, і тых — яны ўсе да гэтага гатовы — што ўперадзе...

Восем чалавек, сярод якіх і наша гераіня, сядзяць раніцай 1-га сакавіка 1881 года на канспіратыўнай кватэры, на Цялежнай вуліцы. Восем чалавек, на якіх скіраваны ў гэтыя хвіліны пражэктар сусветнай гісторыі.

У промні гэтага пражэктара бачу змарнелы, з кругамі пад вачыма і апантана сцятымі вуснамі твар Соф'і Пяроўскай. Кругі пад вачыма — ад бяссонных начэй: заўчарашняй — пасля нечаканага арышту на кватэры Трыгоні Андрэя Жалябава, і ўчарашняй — пасля таго, як вырашана было, што адкладаць замах ні на дзень нельга... Гэта яна прынесла сюды, на Цялежную, дзве з чатырох смертаносных бляшанак, над якімі ноч навылёт варажылі на кватэры Фігнер і Ісаева партыйныя тэхнікі (жах ахапіў надоечы ўсіх, калі высветлілася, што ніводзін са снарадаў для замаху не гатовы, а да раніцы трэба мець іх сама меней чатыры). Гэта яна павядзе адсюль мятальнікаў на Малую Садовую, дзе цароў экіпаж чакае да таго ж і міна ў вулічным бруку — два месяцы назад дзеля магчымасці падрыхтаваць падкоп для міны нарадавольцы Багдановіч і Якімава сталі гаспадарамі сырнай крамы Кобазевымі. Гэта яна не разгубіцца, калі просьба напалоханай княгіні Юр'еўскай — па горадзе паўзлі чуткі пра падрыхтоўку замаху, дапаўзлі і да некаранаванай імператрыцы — зменіць звычайную дарогу высачайшага картэжа на нядзельны развод гвардыі ў Міхайлаўскі манеж і ён абміне Малую Садовую; скеміўшы, што назад картэж паедзе, як заўсёды, узбярэжжнай Кацярынінскага канала, Пяроўская пераставіць мятальнікаў туды, і па яе ж сігнале тое, што павінна было адбыцца, адбудзецца... А потым будуць дні гнятлівай душэўнай непрыкаянасці: Жалябаў у турме заявіць аб сваім актыўным саўдзеле ў падрыхтоўцы царазабойства, запатрабуе далучэння сваёй справы да справы Рысакова — адзінага на першым часе арыштаванага ўдзельніка замаху,— і яна, адчуваючы гонар за самага дарагога яе сэрцу чалавека (у «Падпольнай Расіі» Сцепняка-Краўчынскага рэвалюцыянерка Рына — аўтар не мог раскрыць паліцыі, што прыводзіць расказ сваёй сяброўкі Ганны Эпштэйн—успамінае: «Генерал здзівіўся, навошта Жалябаў аб'явіў сябе арганізатарам замаху. Калі я перадала гэта Пяроўскай, яна адказала мне наступнымі дакладнымі словамі: — Інакш нельга было. Працэс супраць аднаго Рысакова выйшаў бы занадта бледным...»), і разам з тым цвяроза ўсведамляючы, што цяпер яму шыбеніцы не мінаваць, будзе птушкай каля схопленага каршуном птушаняці (параўнанне А. У. Тыркова) кружыць вуліцамі Пецярбурга, будзе адмахвацца ад прапаноў знікнуць з горада, будзе прыдумляць фантастычныя варыянты вызвалення Жалябава, патрабаваць неадкладнага замаху на новага цара—аж пакуль 10-га сакавіка яе не пазнае і не схопіць ля Анічкава палаца спрытнюга-акалодачны. І тады нібы сыдзе на яе супакаенне. І будзе яна спакойная і мужная на судзе. І,

АПАВЯДАННЕ

# КОНЬ

нем! Гэтага нельга даравáць! Барацьба працягвалася.

Аднаго дня праціўнікі акружылі нас пад старой капліцай, пад градам «куль» мы схаваліся ў касцёле, з гарачкі спадзяваліся схавацца ў падзямеллі, дзе ляжалі старыя дубовыя і алавяныя дамавіны. Наваліўшыся на жалезныя дзверы, мы заўважылі, што сярод нас няма Старэйшага. Ён застаўся адзін. Стаяў каля сходак на фоне гатычных дзвярэй пад градам «куль», якія чамусьці не траплялі ў яго. Хіба мянялі кірунак у палёце? А мо рукі нашых непрыяцеляў дрыжалі? Брат выглядаў страшна і горда. Здавалася, што пад яго нерухомым поглядам крушацца пазіцыі ворагаў.

А Старэйшы тым часам рушыў наперад. Ішоў, жмурачы вочы сталёвага колеру, туды, дзе стаяў пабіты куцы. Дайшоў да яго і абняў каня за галаву. Куцы коратка заіржаў, нібыта ўздыхнуў, моцна прытуліўся да чалавека, яго кудлатая скура ўсё дрыжала і дрыжала. Нашы «ворагі» пасталі ў роздуме. Іх рукі апусціліся. Паволі, марудзячы, гледзячы ў зямлю, з сорамам адыходзілі.

То быў момант, пасля якога павінна было наступіць прымірэнне. Склалася так, што на наступны дзень ці на колькі дзён пазней у класе Старэйшага гаварылі пра выбар прафесіі. Хлопцы вякалі тое і гэтае, дзяўчаты — выламваліся. Нічога разумнага ад дзяцей, якія не бачылі жыцця, нельга было пачуць. І, пэўна, нічога не атрымалася б, калі б настаўнік-выхавацель не прымусіў загаманіць нашага Старэйшага.

— Стану ўрачом, — працадзіў скрозь зубы брат. — Правільней, хачу стаць урачом, — сказаў сваім цвёрдым тонам: не любіў гаварыць — гэта факт, быў ашчадным да слова.

— Чаму? Прашу ўдакладніць, — лагодна сказаў настаўнік.

Старэйшы крыху пабялеў і маўчаў, быццам снаваў думку.

— Хачу, — сказаў Старэйшы, быццам нешта перашкаджала яму,— хацеў бы, — паправіў сам сябе, — дапамагчы людзям пераносіць пакуты. — Бачачы, што і гэта не задавальняе настаўніка, што спадзяецца пачуць больш, перамог унутранае супраціўленне і сказаў з сілай: — Жыццё кожнага чалавека праходзіць, мусіць прайсці праз пакуты. Часта здараецца, што людзі не разумеюць гэтага і не могуць выпакутаваць. Я хацеў бы гэтым людзям дапамагчы. І іншым таксама. Магчыма, нават пераканаць іх, што пакуты не такія ўжо і цяжкія і, калі патрапіць, навучыць гэтых людзей... навучыць іх вытрымцы, сіле волі і жыццёвай мудрасці. Бо... бо... людзі, якіх апанавала злосць і нянавісць, таксама няшчасныя.

Глыбокая цішыня ўсталявалася ў класе, калі гаварыў Старэйшы, бо гаварыў быццам з кніжкі. Яны не ведалі, колькі брат прачытаў, не бачылі, як бібліятэкі тых шпіталяў, у якіх ён лячыўся, прайшлі праз яго рукі, а змест прачытаных кніг запаў у сэрца і розум брата. Яны здзівіліся, што вучань умее гэтак гаварыць. Нават твар настаўніка быццам пабялеў.

— Гэта правільна, — сказаў ціха настаўнік, — правільна ты нам сказаў. Дзякую табе. Сам мусіў шмат перанесці, — тут настаўнік апусціў галаву. І гэтак закончыўся той важны ўрок.

Ад таго дня (магчыма, і ад таго, калі адбыўся апошні «бой» ля касцёла) нешта пачало мяняцца вакол нас. Паступова, штораз больш збіралася вакол нас хлопцаў. Прыходзілі быццам так сабе, гамانілі пра што папала, потым папрасілі Старэйшага падвезці іх. Як вясну не спаймаеш за руку і не ведаеш, калі яна прыходзіць ці прыйшла ўжо, так вакол нас таяў лёд, рабілася ясней і цяплей, усё напаўнялася бадзёрасцю і радасцю.

Тым вясеннім днём мы наладзілі — неразумную і нават злачынную — пагулянку. Наша брычка, як вулей пад роем, ехала праз лес у бок узгорка, на вяршыні якога стаяў лясны маяк. Там, на версе маяка, меўся адбыцца пікнік. Старэйшы ў той час страціў уласцівы яму клопат і пагнаў куцага з брычкай і з намі на гэты пагорак. Конік быў мокры ад поту, стомлены, але ішоў, бо слухаўся свайго пана. На гары нас прывітаў вясенні вецер. Мы ўзышлі на маяк, галёкаючы і дурэючы, як маленькія.

Мы страцілі рэшткі розуму, бо, калі сышлі з маяка, рушылі да брычкі і ўсе паселі ў ёй. Паехалі з горкі, у дол. Куцы рушыў з месца галопам, але брычка, набіраючы хуткасць, біла каня па нагах, біла балюча, да крыві. І тады Хан ашалеў—імчаў, як віхор, наставіўшы вушы, наструніўшы сваё старое цела. Зачапіўся за дрэва. Раз. Другі. І хлопцы пасыпаліся на зямлю. Мы, удвох, выскачылі з перапалоху. На брычцы застаўся толькі Старэйшы. Знік паміж дрэў у клубах пылу.

Пехатой вярнуліся дадому. Старэйшы сядзеў над кніжкай. Быў злы.

— Папанасіў?

— Да самага дому. І тут не мог супыніцца. Пакрыўдзілі мы каня...— Толькі гэта і сказаў. Змоўк, замкнуўся. Калі па абедзе мы пайшлі карміць коніка, са здзіўленнем убачылі, што стайня пустая. Шукалі куцага між будоў, на полі, у блізкім лесе, на веласіпедзе аб'ездзілі бліжэйшыя вёскі — нідзе не было. Куцы знік. Як скрозь зямлю праваліўся.

— Уцёк, — сказаў Старэйшы. — Дапяклі мы яму.

Шкада было глядзець на брата, бо відаць было: сумленне не дасць яму жыць. Ад бездапаможнасці, ад жадання з чаго-небудзь ды пачаць, штось парадзіць, а мо і па інтуіцыі, падвечар я сам выправіўся шукаць каня ў Паўночны Бор, што быў на поўнач ад нашага дома.

Праз поле дайшоў да невялікага старога дуба, што самотна стаяў на ўскраіне лесу. Там я прысеў адпачыць, паслухаў шум лесу, і мяне ахапіў спалох. Ісці ці не ісці? Бор славіўся ваўкамі, якія ўзімку кідаліся на коней, расказвалі, што нават на людзей. Але я не мог вярнуцца з пустымі рукамі, як звычайны баязлівец, які вымушан хлусіць...

Лес забірае вас, як вада, як бяздонне, забірае, як казка, як мара. А Паўночны Бор быў прыгожы. Раслі тут розныя дрэвы, траплялся паляны, квяцістыя лугавіны, балотныя выспы, дзе рос зязюльчын лён і пушысты мох. Тут былі пясчаныя пагоркі, стройныя сосны, групы прысадзістых дубоў, што кронамі сваімі засланялі палавіну неба. Той лес зачараваў мяне... У ім захапіў мяне вечар. Я мінуў вялікую паляну і ўвайшоў у цемру. Спалоханы, я пабег, ліхаманкава шукаючы згубленую сцежку. Бег вельмі шмат, і сэрца білася ўсё вышэй і вышэй, недзе ў горле. Так я трапіў на другую паляну, дзе сталі стагі сена. Сеў пад адзін стог. Над светам, над Борам высока ўзбіралася вячэрняя цішыня. На неба выплыў вялікі, пазалочаны, поўны бляску месяц. Я глядзеў, як месяц падымаецца ўгору, і паміраў ад страху, бо ля другога стога ўбачыў нейкага звера. «Воўк», — здавалася, нехта крыкнуў у вуха. Але звер не быў падобны на ваўка.

Я ўстаў і паціху, без гуку пайшоў у той бок. Я мусіў ісці туды, дзе на дне залітай святлом паляны стаяў гэты звер. Звер рашуча, трушком, рушыў да мяне. Не паспеў я схавацца, саскочыць з дарогі, як «звер» паклаў цёплую вільготную морду на маё плячо.

Я сеў на куцага, прылёг на ім, абдымаючы яго шыю, шаптаў: «Ідзі дадому, куцанькі, дадому... Я згубіў сцежку». Куцы нібыта разумеў мяне — перайшоў паляну, знайшоў у цемры сцежку, трушком мінуў вялікі стары дуб, які самотна рос ужо за лесам.

— Баішся ваўкоў? — шаптаў я.— Я таксама баюся, дружа, таксама.

Конік цёплай храпай даткнуўся да маёй нагі, быццам хацеў упэўніцца, што мы — разам.

□

Так адбылося паразуменне са злым, паравістым нашым куцым. Першае ў жыцці надзвычай важнае паразуменне, якое навучыла мяне, што зло і злосць належыць перш выкараніць з сябе, каб чакаць дабра ад іншых.

А словы гэтыя я пішу ў твой гонар, сябра майго дзяцінства, узбунтаваны і абураны куцы. Мы павінны пакінуць гэты свет, дык няхай застанецца ўспамін. Мо і ён спатрэбіцца камусьці.

З польскай пераклаў
Анатоль СІДАРЭВІЧ.

ЭКСПАНУЕЦЦА Ў «ЛіМе»

## ПРАЗРЫСТАСЦЬ



БЕРАЖОК.



ВІРАНДВОЗЕРА.

**Гэтыя работы ляжалі ў Анатоля Ткачонка ў асобнай папцы на дне вялікага чамадана. Ён выцягнуў яе, развязаў матузкі, неяк няўпэўнена паціснуў плячыма...**

**— Не ведаю... Нейкія яны — не вельмі... Недапрацаваныя, ці што?.. І ён пачаў раскладваць проста на падлозе... выдатныя акварэлі!**

**«Цішыня», «Вёска», «На плошчы», «Зімовы матыў», «Першы снег», «Шашанскія палі», «Заходняя Дзвіна ў Бешанковічах»...**

**Гэта было так нечакана, што мы разгубіліся.**

**А мастак усё тым жа няўпэўненым голасам тлумачыў:**

**— Гэтую мне перашкодзіў дапрацаваць дождж́ык, а тут я вельмі спяшаўся, бо хмара зацягвала сонейка...**

**Мы ўглядаліся ў кожную новую работу і ўсё больш і больш пераконваліся, што перад намі не асобныя, выпадкова ўдалыя эцюды, а плён доўгіх і настойлівых пошукаў сябе, свайго мастакоўскага «я».**

**Віцебскі мастацкі тэхнікум Анатоль Ткачонак скончыў яшчэ да вайны, але яго лёс у мастацтве складваўся нялёгка. Толькі год назад ён атрымаў маленечкую майстэрню і ўсур'ёз заняўся творчай працай. Ён вельмі цяжка шукае сябе, свой стыль, сваю тэму. Памыляецца, трапляе ў тупікі, але настойліва, крок за крокам ідзе па абраным шляху.**

**У лепшых яго работах здзіўляюць празрыстасць светаадчування, уменне захапіцца непаўторным у прыродзе, перадаць яе някідкую, вельмі лірычную прыгажосць.**

**Мастак вельмі доўга жыў у вёсцы, можа таму яму такія блізкія і дарагія простыя вясковыя матывы. Ён умее ўбачыць прыгажосць у старым, счарнелым хлеўчуку, у зарасніках маладога хмызняку на беразе невялічкай рачулкі, у серпанціне прасёлка, што віецца паміж калгасных палёў.**

**Выстаўка А. Ткачонка, наладжаная ў рэдакцыі «Літаратуры і мастацтва», знаёміць з лепшымі работамі мастака, дае ўяўленне аб тым складаным працэсе творчага самаўсведамлення, які зараз перажывае А. Ткачонак.**

**А. БЕЛАВУСАЎ.**

ку без шапкі, у расшматаным шынялі, акрываўлены, з адарванымі нагамі. І першым, хто па-чалавечы яго ў гэтым стане пашкадуе, першым, хто прыўзніме яму галаву, паможа пакласці яго ў санны вазок, будзе рэвалюцыянер Іван Емяльянаў, рухі якога яшчэ будзе скоўваць заціснуты падпахай, на гэтага ж цара падрыхтаваны трэці снарад!.. Арыштуюць яго не так скора, 14 красавіка. Прытым паліцыя нейкі час не дужа будзе мець уяўленне, хто ў яе руках, пакуль здраднік не раскрые ёй вочы... Емяльянаў застанецца Емяльянавым — спачатку на следстве ўсё пра сябе раскажа, потым на судзе ад гэтых паказанняў адмовіцца, потым зноў іх прызнае, і ўрэшце ўсё-такі пойдзе на катаргу. Да канца яе не вытрымае — напіша просьбу аб памілаванні... Багатым купцом, адным з айцоў горада ў Хабараўску забудзецца на маладыя парыванні...

Не без прадузятасці — прызнаюся адразу — углядаешся сёння ў твар Рысакова. Выглядаю прыкметы — хоць штрышок —характару заечага, ненадзейнага. Нічога не знаходжу. Твар, як твар... Як не знайшлі, не разгледзелі Жалябаў, Пяроўская, Грынявіцкі, Кібальчыч... Не паказвайце мне, пярэчачы, вядомую рысакоўскую фатаграфію. Гэтым апухлым шыракаскулым дзецюком з напружана-спалоханым позіркам і спалохана ж прыадкрытым ротам ён паўстане перад няўклюднай тагачаснай фотаскрыняй праз некалькі дзён, калі стануць рыхтаваць паперы для суда і калі ўжо нічога не застанецца ад Рысакова ранейшага і цяперашняга, таго, якому давяралі таварышы. А зараз, на падыходзе—гэта ж некалькі гадзін, і будзе вышэйшы пункт яго жыцця!—ён нават неяк знутры асветлены, усхвалявана азораны. Вось такі ён шпурне свой снарад пад ногі царовай запрэжцы. Ад такога яго цар, вылезшы з расшкуматанага экіпажа і сказаўшы: «Дзякаваць богу, я цэлы!» — пачуе звонкае і дзёрзкае: «Не ведаю, ці дзякуй яшчэ богу!..» Але гэта і ўсё, на гэтым кончыцца цяперашні Рысакоў. Пачнецца другі, пазнейшы, з фатаграфіі. Божа, да якой дакоціцца ён агіднай подласці, як адчайна, ашалела будзе выдаваць усіх, з кім зараз сядзіць, з кім калі-небудзь на крамольных дарогах сутыкаўся. Ад страху смерці дойдзе да таго, што будзе клясціся назаўсёды забыцца на ранейшае імя, непазнавальна змяніць знешнасць, стаць верным шпіёнам і сышчыкам — толькі пашкадуйце, пакіньце жывым, ды нават менш—не пакідайце, забіце, але хоць трошкі пазней, не цяпер, калі-небудзь... Марнае ўкленчанне. Выпатрашанага і непатрэбнага, яго ўсё роўна павесяць...

Па адным яны выходзяць з кватэры, гэтыя шасцёра. Пяроўская з мятальнікамі на Малую Садовую, Кібальчыч — у натоўп на Кацярынінскі сквер, чакаць... А двое — гаспадары кватэры — застаюцца. І хоць Мікалай Саблін, паціскаючы адыходзячым рукі, спрабуе, як заўсёды, з бесклапотным выглядам жартаваць, вочы яго не могуць схаваць узрушанасці. Натура чуллівая, трошкі экзальтаваная, аўтар цікавых, заўважаных чытачом вершаў, ён, мабыць, больш за іншых адчувае на ўсім, што зараз адбываецца, памянёны пражэктар гісторыі... Заўтра ўночы яго не стане —калі прыйдзе пасля допыту Рысакова паліцыя, ён зробіць некалькі стрэлаў (у іх даўно так з Гесяй дамоўлена — у выпадку правалу нарабіць як мага больш шуму, каб суседскія размовы папаўзлі па горадзе і дайшлі, як папярэджанне, да таварышаў) і апошняю куляй заб'е сябе. Тут таксама паліцыя не адразу даведаецца імя нябожчыка. А калі даведаецца, усемагутны пры Аляксандры II граф Лорыс-Мелікаў напіша ў дакладзе новаму цару: «Апошнімі днямі выяўлена асоба невядомага (Наўроцкі), які застрэліўся пры вобыску ў Цялежнай вуліцы і заарыштаванні яўрэйкі Гессе Гельфман. Асоба гэтая аказалася былым студэнтам маскоўскага ўніверсітэта Мікалаем Аляксеевым Сабліным... Тоесамасць гэтай асобы ўстаноўлена паказваннем фатаграфічнага здымка з трупа самазабойцы камандзіру батальёна лейб-кацярынаслаўскага грэнадзёрскага палка падпалкоўніку Сабліну, які прызнаў у ім роднага брата». Аляксандр III на палях супраць апошніх радкоў даклада ўласнаручна чыркне: «Прыемна мець такога брата».

І нарэшце — гераіня нашага даследавання Геся Гельфман. Схудалы, бледны, з шараватым адценнем і ў плямах твар. У вачах журба нават пры ўсмешцы. Ужо больш месяца носіць Геся на сэрцы вялізны цяжар — 26 студзеня арыштавалі Каладкевіча. Як яна ні трымаецца, як ні топіць, гаворачы словамі Любатовіч, «асабістае гора... у няспынных клопатах, накладаемых нелегальным жыццём рэвалюцыянера», з твару яе не сыходзіць «выраз бязмежнай пакуты вакол рота і ў вачах». Гэта ўжо словы не Любатовіч, гэта сведчанне сцепнякоўскай Рыны, знаёмства і сустрэча якой з Гесяй Гельфман прыпадаюць якраз на дні пасля арышту Каладкевіча. «Я помню, як аднойчы яна перадала Дубровінай запіску для Скрыпачовай, якая вяла правільныя зносіны з жандарам, што таемна перадаваў пісьмы зняволеным у Петрапаўлаўскай крэпасці, — чытаем у расказе Рыны далей. (Заўважу паміж іншым, што супастаўленне фактаў і дэталей выяўляе за прыдуманай Дубровінай вельмі блізкую Гесі ў гэты час Вольгу Канстанцінаўну Буланаву-Трубнікаву). — Якім бязмежным смуткам гучаў яе голас, нягледзячы на ўсе старанні адолець гэтае хваляванне, калі яна прасіла Дубровіну перадаць гэтую запіску Каладкевічу, які таксама сядзеў у крэпасці!..»

Сёння і заўтра яна яшчэ на волі. І даведаецца ад Міхайлава з Емяльянавым, калі яны зойдуць з нявыкарыстанымі снарадамі, як усё там, на Садовай ды ля Кацярынінскага канала, адбылося. І пойдзе яшчэ па сваіх звычайных шматлікіх клопатах. А. У. Тыркоў, які заўтра яе сустрэне, праз шмат гадоў пра гэтую сустрэчу напіша: «Яна была пахмурая, засмучаная, мала гаварыла. Я спаткаў яе ў знаёмых курсістак, у якіх назбіралася з большага нелегальнай літаратуры. Паліцыя абшуквала тады цэлыя дамы, асабліва населеныя студэнцтвам. Яны баяліся вобыску і хацелі збыць куды-небудзь гэтую літаратуру. Гельфман узяла сабе ўвесь скрутак са словамі: «Ну, у мяне гэтага дабра так многа, што мне ўсё роўна»...

Заўтра ўночы, убачыўшы акрываўленага Сабліна і пачуўшы, што паліцэйскім за дзвярыма таксама аддаецца каманда страляць, яна перш за ўсё схопіцца пераносіць углыб кватэры снарады Міхайлава і Емяльянава — «каб кулі не зачапілі бляшанкі, — растлумачыць яна на судзе, — бо тады мог бы ўзарвацца цэлы дом...» Потым адчыніць паліцэйскім дзверы і папросіць адно — паклікаць доктара...

(Заканчэнне ў наступным нумары)

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

## ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ

Харытон ШПІЛЬКА



# ПАПЯРЭДНІ ХВОСТ

ПЯРЭПАЛАХ усчаўся раптоўна. За паўгадзіны да канца рабочага дня кіраўніку канторы Мірону Барысавічу Куляшу спатрэбілася тэрмінова склікаць на невялікую нараду бліжэйшых памочнікаў, а дакладней — актыў. З адпаведных крыніц стала вядома, што заўтра кантору будзе правяраць камісія з трэста. Трэба было абмазгаваць, як сваю кантору выставіць перад камісіяй парадным бокам.

У кабінеце Мірона Барысавіча сабраліся ўсе намеснікі і памочнікі, загадчыкі аддзелаў і сектараў. Не з'явіўся толькі Тарасік, невялікага росту, рухавы і жвавы Платон Сідаравіч Тарасік, у сейфе якога знаходзілася ўся дакументацыя.

Мірон Барысавіч націснуў кнопку:

— Тарасіка чаму няма?

— Яго сёння і не было. Раніцой забег на хвілінку і сказаў, што ідзе ў суд.

— Чаго ў суд?

— Па павестцы. Я чытала яе. Сказана — да дзесяці нуль-нуль абавязкова, — адказала сакратарка.

— У які суд?

— У наш, раённы.

— Дык што ж гэта робіцца, таварышы?— развёў рукамі Кулеш.— Нашых адказных работнікаў цягаюць па судах, а мы нічога не ведаем. Пэўна, Тарасік наш чалавека забіў ці жанчыну згвалціў. Што заўтра скажа пра гэта камісія? Сорам! Які сорам!

Мірон Барысавіч глытнуў вады і працягваў:

— Ціхі ж, здаецца, чалавек. Год у нас працаваў без усялякіх заўваг— і на табе! Гэта ж, як снег на галаву... Можа што Антон Кузьміч ведае? Суседзі ж...

Антон Кузьміч паціснуў плячыма:

— Ды хто яго ведае. Можа, пабіўся з кім-небудзь?

Наступіла напружаная паўза. Парушыў яе першы намеснік:

— Мірон Барысавіч, я думаю, што тут замешаны «хвост» з папярэдняй работы Тарасіка. Ён жа прыйшоў да нас з матэрыяльна-адказнай работы. Раскапалі цяпер, вось і пацягнулі. Шыла ў мяшку не ўтоіш. Непрыемна, вельмі непрыемна.

Трэці выказаў сваю думку коратка:

— Ужо адзін выклік у суд — вялікая пляма на наш дастойны калектыў. І пакідаць гэта без увагі нельга.

Свае меркаванні па чарзе выказалі амаль усе супрацоўнікі. Абурэнне дасягнула апагею.

— Трэба ламаць сейф,— рэзюмаваў Мірон Барысавіч.— Ужо каля пяці, а Тарасіка ўсё няма. Магчыма, ужо за кратамі. А дакументацыю неабходна паглядзець. Там жа сёе-тое падчысціць не шкодзіла б, каб вачыма перад камісіяй не лыпаць...

Усе накіраваліся ў кабінет Тарасіка. Недзе знайшлі малаток і зубіла, хтосьці прыцягнуў невялікі ломік.

І ў гэтую хвіліну на парозе кабінета паявіўся Тарасік. Усе, хто тут быў, замерлі на месцы, як нашкодзіўшыя школьнікі.

— Што гэта тут здарылася?— спытаў Тарасік і, мячыкам падкаціўшыся да Мірона Барысавіча, адрапартаваў:—Я толькі што з суда. Выбачайце, што раней вам не далажыў. Вас яшчэ не было, дык я сакратарцы сказаў.

— Як жа вы, Тарасік,— прастагнаў Кулеш, — дакаціліся?

— А пры чым тут я? Паўгода назад маю кандыдатуру ў народныя засядацелі, калі не памыляюся, вы першым прапанавалі. А цяпер — хочаш не хочаш — а два тыдні ў год аддай. Вось сёння і засядаў першы раз. Яны там у судзе і так на мяне забыліся.

Усе маўчалі. Усім было вельмі няёмка. Кожны баяўся зірнуць ў вочы Тарасіку. А той, быццам нічога і не здарылася, стаў расказваць, як судзілі сёння групу ўзломшчыкаў сейфа.

**Мараль:** сваіх падначаленых трэба ведаць.

# ПРА РЭЧЫ ДАРЭЧЫ

С. ПАПАР

### ПРЫСТУПКІ

Заходзілі — скрыпелі,
Выходзілі — скрыпелі.
Заціхлі, калі
Па іх паўзлі.

### ТАПОР

Тапор — апух,
І стаў — абух.

### ЛЫСІНА

Жыццё варушыцца патроху,
І ўсё прыкметней на вяку:
Адзін радзіўся у гароху,
Другі, глядзіш, на лабяку.

### ПЯТЛЯ

Дзе зайка шэранькі гуляў,
Была пастаўлена пятля.
І шкадавала апасля:
— Ён мог бы і жывым застацца —
Нашто было так вырывацца?

# ВЫПАДКІ

**— Фрыц, давай сустрэнемся сёння ў пяць гадзін.**

**— Добра, а калі ты прыйдзеш?**

□

**— Супакойся, сынок, доктар табе нічога не зробіць.**

**— Дык чаго мы прыйшлі да яго?**

□

**— Чаму ў вашым горадзе няма пудзіла?**

**— А навошта? Я сам там цэлымі днямі поркаюся.**

□

**— Ну, як маецеся?**

**— Кепска, доктар. Цяпер я не адчуваю смаку нават той ежы, якую вы мне забаранілі.**

□

**— Перачакайце дождж у нас. Мая дачушка вам што-небудзь сыграе.**

**— О, не, дзякую, на двары ўжо не такая і залева.**

□

**— Ты ведаеш, сынок, добра выхаваны чалавек ніколі нічога не страціць.**

**— А месца ў трамваі?**

□

**— Мама, Эльзе ты купіла піяніна, а мне купі веласіпед.**

**— Навошта?**

**— Каб я мог уцячы, калі яна пачынае іграць.**

З нямецкай мовы пераклаў
Ул. СТРУМІЛА.

Славамір ХАДАРОНАК

# ПРА ГРАФАМАНАЎ

*Спакою ўжо даўно няма нам —*
*Шмат развялося графаманаў.*

*З якім напорам! — аж гудуць ілбы —*
*Яны штодзённа пішуць, пішуць,*
*пішуць*
*Ды вось канфуз: у іхнія тамы*
*Угрызаюцца не чытачы, а мышы.*

*І ўсё ж бяздарных лаяць не хачу я.*
*Няхай сабе плятуць, няхай*
*штампуюць.*

*Без наслання тварэнняў іх няхітрых,*
*Напэўна б, не было й таленавітых.*
*Вось так янтар не быў бы янтаром,*
*Калі б янтарным ўсё было кругом.*

Уладзімір МЯЖЭВІЧ

# ВАРТАСЦЬ У РУБЛЯХ

*Маці з дочкамі стаіць на балконе. Унізе, па вуліцы, праходзяць калоны святочнай дэманстрацыі.*

*— Мама, глядзі, цётка Гэля!*

*— Бач ты, бельгійскае паліто за 270!*

*— Мама, Зоя Пятроўна!*

*— Ай-яй! Футра за 380!*

*— Мама, глядзі, і Ніна Іванаўна!*

*— Адхапіла ж недзе! Адных собаляў на 500!*

*З АМЕРЫКАНСКАГА ГУМАРУ*




МІСТЭР ВУД, прапаведнік з цвёрдым характарам, цудоўны муж і бацька, прэзідэнт аб'яднання змагароў за ўмацаванне маральнасці, грамадзянін ЗША, патрыёт і ўладальнік акцый ваеннай прамысловасці, адночы ўзяў у рукі «Чыкага Ньюс» — цудоўную, як і ў старыя добрыя часы, газету. Ён азнаёміўся з курсам акцый ваеннай прамысловасці, і яго ціхмяная душа адразу ж супакоілася — напаўголаса ён прачытаў кароткую малітву ў гонар прэзідэнта і разгарнуў старонку з аб'явамі. Прачытаўшы колькі аб'яў, ён раптам ускочыў з крэсла і паклікаў свайго памочніка і намесніка містэра Франка.

— Як вы думаеце, ці разумны мой сабака Гектар?

— Нават вельмі, містэр Вуд. Шкада толькі, што ён не ўмее гаварыць.

— Так, але ён будзе гаварыць! — усклікнуў містэр Вуд і тыцнуў пальцам у аб'яву, дзе было напісана: «Вучыце свайго сабаку размаўляць. Любы разумны сабака за тры месяцы навучыцца гаварыць. Навучанне ў прафесара містэра Фокса, настаўніка сабачай мовы. Задатак — 100 долараў, плата за навучанне — 400 долараў. Грошы за навучанне бяруцца толькі ў выпадку станоўчага выніку. У адваротным выпадку грошы вяртаюцца. Прафесар містэр Фокс. Чыкага, Ньюс Пінк Стрыт, 543/42, тэлефон 76, дадатковы 5430».

— Містэр Франк, — з захапленнем прагаварыў містэр Вуд,— сядайце ў цягнік і адпраўляйцеся з Гектарам у Чыкага. Гектар павінен загаварыць праз тры месяцы!

— Але навошта гэта вам, містэр Вуд?

— Для таго, каб Гектар распаўсюджваў вучэнне божае. Уявіце сабе, якім натоўпам хлынуць веруючыя ў нашу царкву, калі даведаюцца, што нямая жывёліна загаворыць пра нашу веру...

Містэр Франк быў адданым памочнікам і намеснікам. Схаваўшы ў кішэню 100 долараў, ён узяў Гектара і сеў у цягнік. На наступным прыпынку ён выкінуў сабаку з вагона, а сам правёў цудоўны вечар у кабачку. Назаўтра ён вярнуўся ў свой маленькі гарадок і паведаміў містэру Вуду, што роўна праз тры месяцы забярэ сабаку, які к таму часу будзе гаварыць.

Мінуў час, і памочнік, на гэты раз з 400 доларамі, адправіўся ў Чыкага. На наступны дзень містэр Вуд, яго жонка і сямёра дзяцей, а таксама больш двухсот душ веруючых чакалі на вакзале цягніка. Цягнік падышоў, з яго сышоў містэр Франк, але... без Гектара.

— Дзе Гектар? — ледзь не закрычаў містэр Вуд.

— Падыдзіце да мяне, містэр Вуд, я скажу вам нешта на вуха.

— Чаму вы не хочаце сказаць мне пры ўсіх? Я нічога не ўтойваю ні ад бога, ні ад людзей! Дзе Гектар?

— Вось гэта я і хацеў бы сказаць вам на вуха.

Містэр Вуд адышоўся з містэрам Франкам убок.

— Містэр Вуд, — зашаптаў містэр Франк, — Гектар цудоўна навучыўся гаварыць.

— Чаму ж вы яго не прывезлі?

— Ды таму, што ён занадта добра гаворыць.

— Я вас не разумею, містэр Франк.

— Гектар на самой справе надзвычай разумны сабака. Толькі я зайшоў да містэра Фокса, як Гектар адразу ж пазнаў мяне і, крыху каверкаючы некаторыя словы, сказаў: «Гаў, гаў, гаў ду ю ду, містэр Франк».

— І вы не прывезлі яго?

— Не, не прывёз. Бо адразу ж пасля прывітання Гектар сказаў: «Паслухайце, містэр Франк, як там містэр Вуд і міс Кларк? А можа ў яго зараз прыгожанькая міс Скот?» Ці ж я мог пасля гэтага ўзяць яго з сабой? Гектар сапраўдны балбатун!

Гэта ўжо зразумеў і прэзідэнт аб'яднання змагароў за ўмацаванне маральнасці.

Пераклаў
Б. КАЧАНАЎ.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 АТ 07729

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-44-04, аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра кіно і музыкі — 33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры — 33-21-53, выдавецтва — 33-22-19, бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.